Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 20 (4718) 24 мая 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў галоўнага дырыжора Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І. Жыновіча, народнага артыста Беларусі Міхаіла Казінца з 75-годдзем. «Прысвяціўшы жыццё самааддананаму творчаму служэнню, вы зрабілі значны ўнёсак у развіццё беларускага музычнага мастацтва, захаванне і ўзбагачэнне традыцый выканальніцтва на народных інструментах. Пад вашым кіраўніцтвам Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча ператварыўся ў адзін з самых знакамітых калектываў краіны, заваяваў міжнародную папулярнасць і прызнанне», — сказана ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы сустрэўся з адоранымі навучэнцамі, студэнтамі, таленавітай моладдзю. Аляксандр Лукашэнка ўручыў лаўрэатам спецыяльных фондаў Прэзідэнта, уладальнікам медалёў міжнародных алімпіяд, першых месцаў міжнародных конкурсаў і фестываляў, а таксама фіналістам дзіцячага музычнага тэлевізійнага конкурсу «Я пяю!» пасведчанні, нагрудныя знакі і дыпломы. Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў і старшыня спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі Ніна Мазай уручылі пасведчанні, нагрудныя знакі лаўрэатаў, а таксама падарункі ад Міністэрства культуры краіны.

✔ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Французскай Рэспубліцы, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Каралеўстве Іспанія і Партугальскай Рэспубліцы па сумяшчальніцтве.

✔ У Цвяры (Расія) на гэтым тыдні прайшоў V Міжнародны фестываль славянскай паэзіі «Поющие письмена». «Сёння перад літаратарамі славянскіх краін стаіць вельмі важная задача — захаваць літаратурнае слова, багатую непаўторную родную мову», — гаворыцца ў віншаванні, якое накіраваў удзельнікам свята Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Рыгор Рапота. У праграме свята былі навукова-практычная канферэнцыя, літаратурныя вечары, сустрэчы з паэтамі і творчымі калектывамі.

✔ За адметныя набыткі ў паэтычнай творчасці і актыўную літаратурную дзейнасць паэт і перакладчык, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін узнагароджаны Міжнароднай федэрацыяй рускамоўных пісьменнікаў ордэнам «Культурная спадчына» (Лондан — Будапешт), а таксама медалём імя Івана Ільінскага (Масква).

✔ Фільм «Туфлікі» ўключаны ў асноўную конкурсную праграму Адкрытага расійскага кінафестывалю «Кінатаўр», які пройдзе з 2 па 9 чэрвеня ў Сочы. Фільм, прысвечаны памяці ахвяр Халакоста, створаны пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі, гэта сумесная праца Беларускага відэацэнтра, кінематаграфістаў Расіі, ЗША, Чэхіі, Францыі і Польшчы.

✔ Больш як 150 казак пра родную краіну даслалі беларускія школьнікі на міжнародны конкурс, які праходзіць у межах праекта, прысвечанага еўрапейска-арабскаму дыялогу паміж Захадам і Усходам увогуле і Беларуссю і Султанатам Аман у прыватнасці. Журы адабрала 13 лепшых твораў, якія плануецца перакласці на арабскую і англійскую мовы, зрабіць ілюстрацыі і выдаць асобным зборнікам.

Падрыхтавала
**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**


4 Кітайская грамата для беларускага паэта


6 Уладзімір Карызна. Новыя вершы


9 Вялікая кніга Вялікага тэатра


13 Дарослыя, якія гуляюць у лялькі

*Фота Максіма Гучака, БелТА*



*Падчас адкрыцця VIII Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: гісторыка-культурная спадчына як фактар яднання» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

**Чытайце на стар. 2**

# Берасцейскі макракосмас

*Фота Яўгена Пясецкага, калаж Віктара Калініна*



Пісьменніцкая вандроўка па Брэсцкай вобласці на чале са старшынёй СПБ Мікалаем Чаргінцом — спроба паглядзець на Брэстчыну сённяшнюю з вышыні XXI стагоддзя. Праграма знаходжання творцаў у Брэсцкай вобласці ўключала шмат пунктаў. Сярод іх — сустрэча з кіраўніцтвам аблвыканкама, прадстаўнікамі актываў грамадскіх арганізацый у Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры, наведванне Мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», гутаркі з моладдзю ў аўдыторыях Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. У другі дзень адбылася аглядная экскурсія па Баранавічах, сустрэча з кіраўнікамі і грамадскасцю горада. Падрабязнасці — у наступным нумары «ЛіМа».

# Яднанне праз культуру

**З 22 па 25 мая ў Беларусі праходзіць VIII Беларускі міжнародны медыяфорум «Партнёрства ў імя будучыні: гісторыка-культурная спадчына як фактар яднання».**

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

Арганізатары форуму — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД, Беларускі саюз журналістаў пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі, Міністэрства замежных спраў нашай краіны, Выканаўчага камітэта СНД, Мінгарвыканкама і Мінаблвыканкама, а таксама Гродзенскага абласнога выканкама — стварылі ўнікальную дыскусійную пляцоўку для прадстаўнікоў 15 дзяржаў.

У год старшынства Беларусі ў СНД асноўная ўвага на форуме надаецца дыялогу культур і захаванню гісторыка-культурнай спадчыны як асноўнаму стратэгічнаму рэсурсу інтэграцыйных працэсаў. Гэта падкрэсліў у сваім прывітанні і Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка: «Традыцыі кожнай нацыі непаўторныя і адлюстроўваюць яе душу і светаўспрыманне. Таму ўзаемаразуменне ў адносінах паміж краінамі трэба шукаць праз уяўленне пра своеасаблівасць культуры кожнага народа, гістарычны вопыт і нацыянальны характар. І тут неацэнная роля журналісцкай супольнасці. Голас прэсы, якая выступае за гістарычную праўду, умацаванне нашых агульных культурных і духоўных каранёў, з'яўляецца адным з фактараў стварэння міру, гармоніі і дабрабыту народаў-братоў».

Удзельнікі медыяфоруму сустрэліся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе пазнаёміліся з беларускай кніжнай спадчынай, а потым завіталі ў Мастацкую галерэю Міхаіла Савіцкага, каб перагарнуць старонкі мужнай гісторыі нашай краіны. Як адзначыў міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі, «сёння, у эпоху імклівага развіцця інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій, захаванне духоўнага падмурка з'яўляецца найважнейшым сацыяльным фактарам для паспяховага развіцця любога грамадства. Летапіс беларускай гістарычнай прасторы ў цэлым мае і светлыя, і трагічныя старонкі. Гістарычную праўду, светлую памяць пра подзвіг нашых бацькоў і дзядоў мы павінны не толькі беражліва насіць у сэрцах, але ўмець захоўваць у новых інфармацыйна-тэхналагічных умовах».

На другі дзень удзельнікаў пленарнага пасяджэння сустрэў Палацавы комплекс «Мір», дзе былі абмеркаваны пытанні дыялогу культур, разгледжана роля СМІ ў захаванні культурнай спадчыны, а таксама важнасць мовы і літаратуры ў працэсе яднання народаў.

Як заўжды, важнае месца сярод падзей медыяфоруму мела праца з маладымі журналістамі ў межах летняй школы на базе Інстытута журналістыкі БДУ. Падчас сустрэч абмяркоўваліся спосабы павышэння прафесіянальнага ўзроўню журналістаў, якія пішуць пра культуру, павышэння прэстыжу «культурнай журналістыкі» наогул, а таксама прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблем і дасягненняў культуры праз СМІ.

Сёння ў рамках медыяфоруму адбудзецца падвядзенне вынікаў X Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД.

# Чароўная ноч мастацтва

**18 мая Нацыянальны мастацкі музей запрасіў мінчан і гасцей сталіцы на акцыю «Беларуская ноч, або Музей у фантастычных апавяданнях».**

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Пра тое, што чакалася і што атрымалася, распавядае адзін з куратараў імпрэзы Надзея Ільінская:

— Вельмі прыемна, што больш як 10 тысяч чалавек прыйшлі да нас замест таго, каб, прыкладам, глядзець «Еўрабачанне». Асноўная задума была такая: мы ў маёнтку шляхціца Завальні, знакамітага героя класіка беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага. Гасцей на сваёй сядзібе вітае сам пан Завальня (яго ролю выканаў дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў). Гасцей забаўляюць-зачароўваюць самыя розныя майстры — прадстаўнікі асобных відаў выяўленчага мастацтва, прадстаўленых на экспазіцыі, а таксама музыкі, артысты пантамімы і г. д.

**— Ці змянялася на гэты час асноўная экспазіцыя?**

— Так! У рэчышчы праекта «інтэрвенцыя ў класіку» побач з шэдэўрамі прызнаных майстроў былі размешчаныя работы сучасных беларускіх мастакоў, і гледачы маглі іх параўноўваць *(смяецца)*. Да таго ж госці сядзібы змаглі па-новаму ацаніць карціны з калекцыі «Беларускае мастацтва XIX — пач. XX стст.»: пры дапамозе сучасных тэхналогій яны прадстаўлены ў выглядзе 3D-малюнкаў. У фае — выстаўка слыннага беларускага графіка Валерыя Славука, якая запрашае ў свет міфалогіі.

Можна было пабачыць яшчэ шмат дзівосаў. Батлеечнікі прадставілі біблейскія сюжэты. На імправізаваным «Завароженым балоце» (цэнтральная галерэя) шчыравалі сапраўдныя пачвары (творчая група «Майстэрня ўражанняў» і майстэрня «Руды кот»). Дзікія, але сімпатычныя прывіды, таямнічыя іншапланецяне, земнаводныя ўвасабленні інтэрактыўны тэатр. Цікава было назіраць, як да пана Завальні завітала шляхта. Пад яе кіраўніцтвам гледачы маглі




авалодаць навыкамі шабельнага бою і прыёмамі куртуазнага падыходу, пачуць байкі беларускага Мюнхгаўзена і згуляць у шахматы… па-шляхецку.

**— Каля музея стаяла бясконцая чарга. Колькі ж часу давялося чакаць цудаў?**

— Усё было вельмі аператыўна. Па-першае, былі дзве чаргі: для тых, каму патрэбны квіток, і для тых, хто набыў яго загадзя. У другой, «прахадной», чарзе ішлі і тыя, хто адпавядаў абвешчанаму «ільготнаму» дрэс-коду: чароўныя чаравікі (сведчанне гатоўнасці ісці ў невядомы свет) і чароўныя акуляры (сімвал згоды глядзець на новае, нязвыклае). Нават у чарзе сумаваць нікому не давялося: на ганку сабраліся на Музычную Раду «Тутэйшая шляхта», *HardWood, HURMA, Dzivasil, Relikt, PROSSPEKT*, тэатр *eYe*. У кавярні дворыка музея («Арт-картопля») можна было падсілкавацца кавай са смачнымі пірагамі.

**— Вядома, што мэта «Ночы музеяў» — папулярызацыя мастацтва. Але ў тую ноч да вас маглі трапіць зусім выпадковыя людзі. Магчыма, тут ёсць небяспека прафанацыі мастацтва замест яго папулярызацыі?**

— Мы хацелі паказаць, што можна і трэба ў музеі ладзіць самыя розныя дзействы, не абмяжоўваючыся экспазіцыяй. Тыя, хто прагне камунікацыі, інтэрактыву, маглі гэта атрымаць. Большасць наведвальнікаў, зразумела, былі ў нас не ўпершыню, але нават тыя, хто трапіў «выпадкова», здаецца, атрымалі імпульс вярнуцца сюды ў больш «спакойны» час, каб назаўжды пасябраваць з мастацтвам.

# Завітаць да Быкава

**Раіса МАРЧУК**

Праз год, 19 чэрвеня 2014 года, споўніцца 90 гадоў з дня нараджэння аднаго з самых знакамітых беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя — Васіля Быкава. У гэты дзень пад Мінскам, у дачным пасёлку «Ждановічы», павінен адкрыцца музей Васіля Уладзіміравіча. Пра тое, як па задумцы навукоўцаў будзе ўшанавана памяць пра слыннага творцу, распавядае дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч:

— Працягваецца праца па стварэнні канцэпцыі будучай экспазіцыі, якая размесціцца на дачы пісьменніка. Лецішча Васіля Уладзіміравіча ўяўляе сабой прыгожую, невялічкую і вельмі сціплую сядзібу, засаджаную бярозамі. Відаць па ўсім, гэтыя дрэвы раслі тут яшчэ да таго, як сям'я Быкавых засялілася сюды ў 1985 годзе. Вядома, што гаспадар і сам пасадзіў некалькі дрэў.

Пакуль вядуцца падрыхтоўчыя работы па праектаванні аднаўлення і ўладкавання будынка, які павінен адпавядаць усім патрабаванням музейнай установы.

Што да будучай экспазіцыі, то дача максімальна захавае сваю мемарыяльнасць. На першым паверсе некранутым застанецца гасцявы пакой з камінам і вялікім сталом, дзе звычайна збіраліся сябры пісьменніка. Маленькая кухня будзе абсталявана для патрэб музея, праўда, яна для нас вельмі каштоўная тым, што сцены яе размаляваны рукой Васіля Уладзіміравіча. Малюнкі абавязкова будуць захаваныя. Для наведвальнікаў дзверы гэтага пакоя будуць адчынены. На першым паверсе знаходзіцца і гараж, у якім, мы спадзяёмся, будзе стаяць «Волга» Васіля Быкава, якую ён вельмі любіў і прысвячаў ёй шмат часу.

На другім паверсе застанецца кабінет Васіля Уладзіміравіча з мэбляй, якая належала пісьменніку, а побач, у былым пакоі Ірыны Міхайлаўны, размесціцца літаратурная экспазіцыя, якая непасрэдна будзе распавядаць пра творчасць Васіля Уладзіміравіча.

«Пакоем Ганада» — даўняга сябра Васіля Быкава пісьменніка Ганада Чарказяна — называлі ў сям'і Быкавых мансарду над гаражом — вельмі светлае памяшканне з мноствам вокнаў, уздоўж якіх стаяць складныя драўляныя крэслы. Тут жа будзе працяг літаратурнай экспазіцыі. У гэтым пакоі Васіль Уладзіміравіч цёплай парою любіў пісаць. Працоўны куточак мансарды будзе таксама захаваны.

Плануецца ўвядзенне ў кантэкст экспазіцыі электронных сродкаў, якія дазволяць у невялікім памяшканні разнапланава паказаць жыццё і творчасць народнага пісьменніка. Упершыню шырока будуць прадстаўлены шматлікія храналагічныя замалёўкі Васіля Быкава, звязаныя з будаўніцтвам і жыццём на дачы, будзе гучаць голас пісьменніка. Адным словам, мы максімальна пастараемся захаваць тое, што было пры жыцці Васіля Быкава, і ў той самы час стварыць цікавую экспазіцыю.

# Прафсаюз віншуе

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

Названы імёны лаўрэатаў прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2013 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці. Конкурс, нагадаем, праводзіўся па сямі намінацыях.

Звання лаўрэата, Ганаровага знака, дыплома і грашовай прэміі за кнігу «Крыніца ля лясных бяроз» удастоены пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня» Зіновій Прыгодзіч; за высокае выканальніцкае майстэрства і стварэнне альбома і канцэртнай праграмы «Жыццё — цукерка!» — артыстка-вакалістка Маладзёжнага тэатра эстрады Вольга Плотнікава. Калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра ў складзе дырыжора-пастаноўшчыка Марыны Траццяковай і артыстаў-вакалістаў Аляксандра Асіпца і Яўгенія Ермакова адзначаны за стварэнне яркіх вобразаў у музычнай камедыі У. Гаджыбекава «Аршын мал алан». Цыкл матэрыялаў пад рубрыкай «Героі нашага часу» «Народнай газеты» прынёс перамогу аўтарам артыкулаў Людміле Канапелька, Ірыне Класкоўскай і Людміле Мінкевіч.

За стварэнне твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прэміяй уганараваны мастак Аляксандр Зіменка. Дырэктар філіяла Лідскія электрычныя сеткі Гродзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі «Гроднаэнерга» Пётр Лабан адзначаны за актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных. А ў намінацыі «За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці» лаўрэатам стаў заслужаны аматарскі калектыў Беларусі вакальна-інструментальны ансамбль «Шкляры» шклозавода «Нёман» г. Бярозаўка Лідскага раёна (кіраўнік Андрэй Барысевіч, кіраўнік музычнай студыі Віктар Мікянец).

## *Абрысы*

Беларускія сядзібы падрыхтаваліся да летняга сезона, а 26 мая іх гаспадары падзеляцца крэатыўнымі ідэямі і напрацоўкамі падчас рэспубліканскай акцыі «Дзень адчыненых дзвярэй у беларускіх аграсядзібах», якая пройдзе ў Беларусі другі раз. Ініцыятарамі мерапрыемства ў Год зялёнага турызму выступілі Беларускае грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы» і Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, у нядзелю ўсе жадаючыя (на бясплатнай аснове) змогуць наведаць любую аграсядзібу, якая ўдзельнічае ў акцыі, пазнаёміцца з пералікам паслуг, прадэгуставаць гаспадарскія «прысмакі», набыць сувеніры ад мясцовых майстроў-рамеснікаў, пачуць выступленні фальклорных калектываў ды ўзяць удзел у конкурсах і спартыўных мерапрыемствах.

Кінатэатр «Цэнтральны» 30 мая збірае аматараў дакументальнага кіно. Будуць дэманстравацца тры стужкі, у дзвюх з якіх — «Валерый Рачкоўскі. Лялькі і тэатр» ды «Адвечным шляхам» — аўтарам і рэжысёрам выступае Ірына Волах. У «Дзённіках санінструктара Старавойтава» яна ж — рэжысёр. Усе фільмы прысвечаны беларускім творцам: галоўнаму мастаку Дзяржаўнага беларускага тэатра лялек Валерыю Рачкоўскаму, удзельніку хору ветэранаў з Лунінца 86-гадоваму Яўгену Старавойтаву і філосафу, паэту, публіцысту Ігнату Канчэўскаму. Без кнігі апошняга «Адвечным шляхам», падпісанай псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч, немагчыма ўявіць гісторыю беларускай філасофскай думкі.

Арыгінальна правялі акцыю «Ноч музеяў» супрацоўнікі Рагачоўскага музея народнай славы. Яны прапанавалі наведвальнікам цікавую і разнастайную праграму «З рога ўсяго многа...»: тэатралізаванае прадстаўленне ў выглядзе гумарыстычных міні-замалёвак па творах пісьменніка-земляка Міхася Слівы. Былі таксама экскурсія па археалагічнай зале «Старажытны Рагачоў», бяспройгрышная латарэя з выкарыстаннем археалагічнага матэрыялу «Дотык да мінулага», майстар-клас па вырабе лялек-абярэгаў. З традыцыямі беларуская ткацтва пазнаёміла гасцей народны майстар Надзея Швед. Даспадобы многім прыйшлася дэгустацыя гарбаты, якую суправаджалі прыпеўкі ў выкананні спадарыні Надзеі.

*З нагоды*

# Войстам — крыніца натхнення

**Васіль РАМАНЧУК**

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Генадзь Пашкоў нарадзіўся ў вёсцы Ліпавічы на Чашнічыне, але з пяці гадоў жыў на Смаргоншчыне, дзе ў Войстамскай сярэдняй школе, якую ён скончыў у 1966 годзе, настаўнічала яго маці. Таму гэтую вёску лічыць роднай і стараецца


Фота Міколы Шабовіча

*Злева направа: Г. Пашкоў, І. Саверчанка, А. Марціновіч.*

па магчымасці бываць у ёй. Завітаў сюды і нядаўна з калегамі-пісьменнікамі, знаёмымі. Тым больш надарылася добрая нагода: землякі вырашылі правесці свята паэзіі, прымеркаваўшы яго да 65-годдзя з дня нараджэння Г. Пашкова.

У мясцовым клубе сабраліся жыхары, якія хацелі пабачыць «свайго» пісьменніка. Дзякуючы доктару філалагічных навук Івану Саверчанку яны змаглі адкрыць для сябе і некаторыя невядомыя старонкі. І. Саверчанка адзначыў, што паэзія Г. Пашкова — надзіва лірычная, шчырая і не пазбаўлена публіцыстычнай завостранасці.

Думку пра тое, наколькі адметная творчасць Г. Пашкова, развіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь Марціновіч. Загадчык сектара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка асаблівую ўвагу звярнула на набыткі Г. Пашкова-празаіка, прынамсі, на яго кнігу «Палескія вандроўкі».

Лаўрэат прэміі «Залаты Купідон» Мікола Шабовіч прачытаў некалькі вершаў Г. Пашкова ў сваім перакладзе на рускую мову, а таксама пазнаёміў прысутных з уласнымі творамі. І, зразумела, з цікаўнасцю ўсе слухалі самога юбіляра: і вершы, і згадкі пра жыццё ў Войстаме.

*Пошукі і знаходкі*

# На бітву ў Дудуткі

Адраджэнню спадчыны шляхецкага роду Ельскіх будзе прысвечаны сёлетні турыстычны сезон у Музейным комплексе старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі».

**Раіса МАРЧУК**

Распачаўся ён з Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Ельскія чытанні», якую ладзілі сумесна з гістарычным факультэтам Белдзяржуніверсітэта. Улетку з прыцягненнем валанцёраў плануецца добраўпарадкаваць сямейныя пахаванні Ельскіх на ўрочышчы Кобань, якое ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі. А яшчэ расчысціць парк Ельскіх і крыніцы ў ім.

— Усё, што адбываецца ў музеі, зразумела, накіравана на прыцягненне большай колькасці наведвальнікаў, — зазначыў дырэктар музейнага комплексу «Дудуткі» Сяргей Дзюкараў падчас прэс-канферэнцыі. — Але калі раней наша дзейнасць у асноўным схілялася ў бок народнай культуры з камерцыйным падтэкстам, то цяпер хочам выраўняць гэты крэн і паставіць музей на сур'ёзныя навуковыя рэйкі. У экскурсіях будзем выкарыстоўваць больш звестак па гісторыі роду Ельскіх, якія жылі і стваралі на гэтых землях у XIX — пачатку XX стагоддзя.

Тыя, хто наведаў Дудуткі 9 мая, здаецца, трапілі ў даваенныя і ваенныя гады. Супрацоўнікі музея змаглі даволі дакладна, з элементамі анімацыі, перадаць атмасферу таго часу. Новае мерапрыемства для музея — фестываль вулічнай культуры, на які мяркуюць запрасіць выканаўцаў розных музычных кірункаў, што «засвяціліся» ў пераходах метро ды іншых месцах Мінска. Зразумела, чакаецца і ўжо традыцыйны пленэр майстроў.

Адно з самых адметных і масавых мерапрыемстваў, якое пройдзе ў Дудутках 19 — 21 ліпеня, — V міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі «Наш Грунвальд». Цэнтральнай падзеяй стане рэканструкцыя легендарнай бітвы паміж войскамі Тэўтонскага Ордэна і ваярамі саюзнікаў: Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Як змагаліся з ворагам нашы продкі, прадэманструюць члены клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі з Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. Галоўная мэта арганізатараў — улюбіць наведвальнікаў у гісторыю і прыцягнуць іх увагу да вялікай падзеі, якая змяніла лёс дзвюх дзяржаў.

Жыццё паказала, што музей усё больш становіцца месцам для спакойнага сямейнага адпачынку, дзе можна і экскурсію паслухаць, і рамяство асвоіць, і ўдзельнікам грандыёзнага мерапрыемства стаць, і да мастацтва далучыцца.

# Як пажадаеце?

У Мінск прыехаў легендарны маскоўскі Тэатр на Таганцы! Вучаніца Юрыя Любімава Рэната Сатырыадзі прадставіла спектакль «Дванаццатая ноч, альбо Як пажадаеце» па п'есе Уільяма Шэкспіра.

**Паліна ПЛАТАВА**

Уся п'еса Шэкспіра прасякнута каханнем: гэтае трапяткое пачуццё кіруе сэрцамі герояў і яднае іх… З кахання да герцага Арсіна (Аляксандр Лырчыкаў) Віола пераапранаецца ў мужчыну Цэзарыа (Ірына Ліндт). Сам жа герцаг кахае Алівію (Юлія Куварзіна). А тая (толькі уявіце!) — Віолу ў мужчынскім абліччы. Безумоўна, што падобны трохкутнік прыводзіць да дзіўных з'яў. А калі дадаць да гэтага інтрыгі камерысткі Марыі (Сяргей Ушакоў), п'яныя баламуцтвы дзядзькіі Алівіі сэра Тобі (Раман Стабураў) разам з сэрам Эндру (Ігар Ларын), дзівацтвы блазна (Мікіта Лучыхін), пакуты дварэцкага Мальволіа (Іван Рыжыкаў), то атрымаецца яскрава-светлае карнавальнае дзеянне. З заблытанымі калізіямі. І са смехам. Мноства смеху!

Менавіта гэтую атмасферу невераґоднага смеху і стварыў Тэатр на Таганцы. Стварыў прафесійна і дэталёва. Рэжысёр Рэната Сатырыадзі выкарыстала вельмі цікавы ход: усё дзеянне спектакля суправаджалася ігрой на музычных інструментах. Прычым, гралі самі акцёры. Любоўныя пакуты герцага — жаласна стогне скрыпка. Разумныя глупствы блазна — па-заліхвацку грае гітара. І песні, песні… Забаўляльныя і філасофскія, вясёлыя і сумныя. Цікава, што музыка была то старадаўняя, то сучасная. Гучалі рокавыя матывы, а шаблі выкарыстоўваліся як мікрафоны. Яны дурэлі на сцэне не меней, чым Энтані Кідзіс. І музыка, такім чынам, не толькі дала спектаклю дадатковую эмацыянальнасць, прымусіла гледачоў яшчэ болей смяяцца, але і злучыла мінулае і сённяшняе, асучасніла п'есу. З музыкай гарманіравала адзенне герояў: майкі з выявамі чэрапаў, чорныя рамяні.

Дарэчы, вялікая ўвага надавалася дэталям. Іх было няшмат, але ж яны былі моцнымі. На сцэне — мандарынавае дрэва, якое ўвесь час ахоўвалася Марыяй ад нападаў вясёлай кампаніі блазна, сэраў Тобі і Эндру. У блазна — гітара, што складалася толькі з абалонкі. А на рэмені сэра Тобі — некалькі маленькіх бутэлек, зразумела з якой мэтай туды прычэпленых. Безумоўна, гэта, як і рокеры XVI стагоддзя, выклікала ў гледачоў смех.

Яшчэ большы смех быў выкліканы ігрой акцёраў. Яны здолелі стварыць вельмі каларытныя вобразы. Рэзкія, патэтычныя рухі герцага, выразная манера гаварыць выдавалі яго характар. Тое ж самае з іншымі персанажамі. Чырвоны нос недалёкага Эндру хораша выглядаў разам з яго п'янай мімікай і не больш цвярозай пластыкай. Зала была проста скорана падкрэсленай сур'ёзнасцю Мальволіа ў камічных сітуацыях.

Атмасфера смеху была створана. Прафесійна, дэталёва. Аднак ці не зашмат яго было? Зразумела, уявіць камедыю без смеху немагчыма! Але ж, чытаючы п'есу Шэкспіра, ты больш разважаеш, чым смяешся. Алівія ўяўляецца ў трагічным свеце. А тут — смешная Юлія Куварзіна. Тобі, Эндру і блазан таксама здаюцца ў п'есе Шэкспіра больш трагічнымі. Марыя — больш глыбокай натурай. А ў выкананні Сяргея Ушакова яна выключна камічная. Дарэчы, выкананне мужчынам жаночай ролі для стварэння камізму — нeяк зусім не сур'ёзна для такога сур'ёзнага тэатра.

І атрымліваецца, што спектакль балансуе на мяжы весялосці і развагі. Ён яшчэ не акунуўся цалкам у мора смеху. Аднак некалькі крокаў — і… падзенне. Ёсць над чым задумацца. Бо што будзе, калі такі прафесійны, добры тэатр, як Тэатр на Таганцы, пакладзе ўсе свае сілы на стварэнне забаўкі для гледачоў? Некаторыя сустрэлі спектакль даволі халодна. Мабыць, не толькі смеху бракуе ў тэатры…

# Сярод землякоў

Пяру публіцыста Рыгора Андрэяўца, які жыве і плённа працуе ў Гомелі, належыць каля дзясятка кніг. Найбольш вядомыя — «Жыццё Францыска Скарыны», «Беларусы ў Расіі», «Капітан Франц», «Дзве радзімы», «Разведчык Генеральнага штаба», «Руская ніва»… Знаёмы на Гомельшчыне і з дакументальнымі фільмамі — «Князь-возера», «Паляванне на ваўкоў», «Тураў — сталіца дрыгавічоў» і «Казацкія Балсуны», створанымі па яго сцэнарыях.

Рыгор Андрэявец працаваў у раённых газетах, настаўнікам і дырэктарам школы, стварыў і ўзначальваў газету «Гомельскія ведамасці», быў тэлежурналістам, а да гэтага 16 год у якасці ўласнага карэспандэнта «Звязды» асвятляў меліярацыю Палесся. На працягу дзесяці год выходзіў гісторыка-літаратурны часопіс «Палессе», які творца і заснаваў. На яго старонках друкаваліся творы на мовах арыгінала — беларускай, рускай і ўкраінскай.

Рыгор Андрэявец — лаўрэат міжнароднай прэміі імя Баяна і ўсерасійскай прэміі «Лепшыя пёры Расіі». З такім вось набыткам падышоў Рыгор Мікалаевіч да свайго юбілею — 65-годдзя, які ён адзначыў на малой радзіме — у Лоеве. Цёплыя словы пра юбіляра ў раённым Доме культуры гаварылі пісьменнікі з Гомеля Васіль Ткачоў, Ніна Шклярава, Уладзіслаў Шышыгін, лоеўскія паэты Алесь Кукара, Іван Лямешка ды іншыя творцы, калегі і сябры.

**Юрый АЎГЕЙ**

---

Стагоддзю з дня нараджэння Васіля Івашына, выдатнага беларускага даследчыка-літаратуразнаўцы, педагога і паэта, была прысвечана літаратурна-музычная вечарына «Са мной мой век…», што адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. І, бадай, галоўнай падзеяй імпрэзы, на якой прысутнічалі выбітныя навукоўцы Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Гніламёдаў, Сцяпан Лаўшук, Васіль Жураўлёў, Міхась Тычына, Алесь Бельскі, Алег Лісейчыкаў і Вольга Дэконская, стала прэзентацыя кнігі ўспамінаў пра В. Івашына «Жыццё не пасціла мяне».

Пяты рэспубліканскі фестываль замежных студэнтаў «Дні рускай мовы і беларускай культуры» прайшоў у Белдзяржуніверсітэце. У ім узялі ўдзел больш як тысяча студэнтаў-замежнікаў, якія вучацца ў беларускіх ВНУ, выкладчыкі рускай і замежных моў, а таксама русісты з Іспаніі, Ірака, Кітая, Турцыі, Расіі, Туркменістана і Арменіі. У праграму фестывалю ўключана алімпіяда па рускай мове як замежнай, таксама Міжнародная навукова-метадычная канферэнцыя «Тэорыя і практыка выкладання рускай мовы як замежнай...», якая аб'яднала больш як 100 выкладчыкаў з Беларусі і іншых краін.

Многія аматары сучаснай беларускай літаратуры ўжо ведаюць кнігу «Роднае, шчымлівае» Анатоля Крэйдзіча. А нядаўна выданне, якое складаюць дакументальна-мастацкая аповесць «Богаў сон» пра мастака Янку Рамановіча, а таксама нарысы пра адметных людзей Брэстчыны, літаратурныя роздумы пра рэчаіснасць, філасофскія і жартоўныя мініяцюры, было прэзентавана ў брэсцкім салоне-магазіне «Сябрына». Высока ацэньваючы творчасць А. Крэйдзіча, удзельнікі вялі гаворку і пра тое, як найлепшым чынам спрыяць папулярызацыі кніжных навінак, даносіць іх да масавага чытача. Пра гэта грунтоўна гаварылі намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут, дырэктар Брэстаблсаюздруку Таццяна Зіневіч, паэтэса Любоў Красеўская і іншыя. Яны выказалі шэраг слушных меркаванняў пра разнастайныя формы і метады папулярызацыі кнігі, пашырэнне рэкламнай дзейнасці, актывізацыю сустрэч пісьменнікаў з чытачамі.

Учора ў Мінскай гарадской бібліятэцы № 5 у межах паэтычнага клуба «Парнас» адбылася прэзентацыя кнігі маладой таленавітай паэтэсы Людмілы Клачко «На колькі слоў…», якая пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў серыі «Мінскія маладыя галасы», заснаванай Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Людміла Клачко з'яўляецца пераможцай мінскага гарадскога літаратурнага конкурсу, прысвечанага 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Яе вершы друкаваліся ў часопісах «Нёман» і «Новая Немига литературная».

# Стаў Кітай бліжэйшым

Аматары паэзіі нядаўна атрымалі цудоўны падарунак. Ва ўсякім разе, тыя з іх, хто не толькі ўважліва сочыць за творчасцю нацыянальных аўтараў, а і хоча чытаць па-беларуску паэтаў, якія належаць да іншых народаў. Кніга «Пад крыламі Дракона», што пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», дае такую магчымасць. У ёй, праўда, змешчаныя творы прадстаўнікоў усяго адной літаратуры, затое якое багацце імёнаў, талентаў, наколькі непаўторны свет, у якім уладарыць «госця нябесная»!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Пра тое, што кніга не шараговая, сведчыць ужо яе падзагаловак: «Сто паэтаў Кітая». Менавіта столькі творцаў Паднябеснай сабраў пад адной вокладкай укладальнік і перакладчык — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі. Пры жаданні, праўда, мог бы сабраць і куды болей. Гэта для шмат якіх іншых літаратур, у тым ліку і высокаразвітых, лічба сто выглядае па сутнасці недасягальнай. Ва ўсякім разе, калі адбіраць творы самых-самых таленавітых аўтараў.

Ды ў Кітаі ва ўсіх адносінах іншыя маштабы. Гісторыя ж гэтай дзяржавы нават не шматвяковая, а тысячагадовая. Нараджаліся і адыходзілі ў нябыт імперыі, у розных кутках свету з'яўляліся правіцелі, якія збіраліся скарыць Кітай, адна дынастыя змяняла другую.

Гэта датычыла не толькі вытворчасці, навукі, а і літаратуры, мастацтва, культуры ў цэлым. Пісьмовая паэзія ў Кітаі існуе на працягу дваццаці чатырох стагоддзяў і прадстаўлена тысячамі аўтараў. Першым сярод тых, чыё імя не канула ў Лету, згадваецца Цюй Юань.

Нарадзіўся ён прыкладна ў 340 годзе да н. э., памёр у 278-м. Цюй Юань перш-наперш быў выдатным паэтам. Прытым, калі карыстацца цяперашнім паняццем, паэтам-наватарам. Прынамсі, гэта ён даў вершу, вобразна кажучы, вольны палёт. Калі да Цюй Юаня ў старажытнай кітайскай паэзіі ў кожным радку верша было толькі чатыры склады, дык ён павялічыў іх колькасць, што, несумненна, пашырыла творчыя магчымасці таго, хто браўся за пяро, дазволіла больш свабодна, раскавана выказваць свае думкі. Да таго ж ён напісаў цыкл вершаў «Чу цы», ці, іначай кажучы, «Чускія строфы». Царства Чу, што знаходзілася на поўдні краіны, — радзіма паэта.

Аднак Цюй Юань-паэт неаддзельны ад Цюй Юаня-грамадзяніна. Ён з'яўляўся дарадцам правіцеля царства Чу Хуайвана. Уладар суседняга магутнага княства Цінь прапаноўваў Хуайвану заключыць саюз. Цюй Юань разумеў, што гэта нічым добрым не скончыцца, таму папярэджваў свайго гаспадара, каб не ішоў на падобны крок. Толькі той не паслухаўся яго, накіраваўся ў Цінь. Там быў палонены, у палоне і памёр. Самому ж Цюй Юаню было наканавана выгнанне, якое доўжылася дваццаць гадоў, ажно да смерці паэта. Адно суцяшае: у выгнанні ён напісаў высокамастацкую паэму «Лісао», якая ў Кітаі па сённяшні дзень карыстаецца вялікай папулярнасцю.

Праз абмежаваны аб'ём кнігі «Пад крыламі Дракона» гэты твор у яе не трапіў. Затое Цюй Юань прадстаўлены трыма вершамі: «Смерць за Радзіму», «Уладару Усходу Тайі» і «Пакланенне душы». Кожны з іх сам па сабе ўяўляе цікавасць, паколькі дазваляе адчуць адметнасць мыслення неардынарнага паэта. Тым не менш першы верш у гэтым шэрагу асабліва прывабны, бо сведчыць, наколькі сапраўдная паэзія здатная апераджаць свой час. Калі адкінуць убок канкрэтныя рэаліі, адлюстраваныя ў творы, і пачаць убіраць у сябе сам дух таго, пра што расказваецца, з'яўляецца адчуванне тваёй прысутнасці ў апісаным часе.

*Мы коп'і трымаем чэпка,*
*на ўсіх скураныя латы.*
*Разбітыя ўшчэнт калясніцы,*
*ды мы ў рукапашную б'ёмся.*

*Сцягі захінулі сонца,*
*і сунецца вораг хмарай.*
*Са свістам лятаюць стрэлы.*
*І мроіцца ўсім перамога.*

Сам час нібыта зрушыўся з месца, пачаўшы адлік у зваротным кірунку, а тое, што было даўным-даўно, хвалюе, быццам адбываецца наяву. Стаўшы відавочцам даўняга бою, ты ўжо мінулае, па сутнасці, прымяраеш на сябе. Сэрца напаўняецца гордасцю за далёкіх змагароў за свабоду і незалежнасць роднага краю:

*Мужы сапраўднай адвагі,*
*высокай воінскай чэсці!*
*Іх, дужых і непахісных,*
*скарыць ніхто не здатны.*

*Памерла смяротнае цела,*
*а дух застаецца вечным.*
*Забітых адважныя душы*
*і там, сярод душ, — героі.*

Я невыпадкова так падрабязна засяродзіўся на творчасці Цюй Юаня. На гэта ёсць некалькі прычын. Галоўная заключаецца ў тым, што творца ўяўляе вялікі інтарэс, бо адкрывае слаўную плеяду кітайскіх паэтаў, народжаных на працягу дваццаці чатырох стагоддзяў. І заканамерна, што ён адкрывае кнігу «Пад крыламі Дракона», у агульных рысах даючы ўяўленне пра кітайскую паэзію. Разам з тым няцяжка ўявіць і іншае, не менш важнае: наколькі М. Мятліцкі здатны ў паэзію кітайскую ўнесці беларускі дух, ажыццявіць тое, пра што вядомы рускі перакладчык Аляксандр Гітовіч (а ён больш як дзесяць гадоў перастварае на роднай мове вершы паэтаў Паднябеснай) казаў так: «...современными стихами // Перевести восточный старый стих». Сёй-той, бадай, можа запярэчыць: як, не ведаючы арыгінала, можна адчуць гэта? Як быццам, аргумент правільны. Толькі, калі лепш разважыць, не так усё і проста, як можа падацца на першы погляд. Не будзем забываць: ёсць яшчэ і тое, што ў дадзеным выпадку знаходзіцца як бы па-за кітайскай мовай — унутранае пачуццё, якое дакладна ўвасабляе таленавіты перакладчык. Акурат гэта і здолеў зрабіць М. Мятліцкі. У пацвярджэнне прывядзём яшчэ і такі ўрывак з верша «Смерць за Радзіму»:

*Загразлі ў суглінку колы,*
*бы ў путах чацвёра коней*
*На штурм! І няфарбтавай палкай*
*б'ю я ў барабан зазыўна.*

Усё гэта надзіва сучасна. Больш за тое — дакладна па-беларуску сказана.

Гэтаксама высока планку перакладчыцкай дасканаласці М. Мятліцкі трымае і пераўвасабляючы творчасць іншых паэтаў.

*Паэзіі сацыяльнае паходжанне яе аўтара не важна. Галоўнае — талент. У Лі Бая і Ду Фу ён быў велізарнай жыццядайнай сілы, таму прыцягальнасць яго адчувальная і праз столькі стагоддзяў. Як і ў творах Лі Юя. Праўда, на той час ужо былога імператара. Ён вядомы і як майстар рамансаў малой формы, так званых цы. Лепшыя з іх, а таксама вершы, былі напісаныя ўжо пасля таго, як Лі Юй быў скінуты з трона заснавальнікам сунскай дынастыі.*



*Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая / укладанне і пераклад на беларускую мову М. Мятліцкага. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2012.*

Не так важна, дзе ты служыш. Куды важней, наколькі карысная для грамадства твая галоўная служба — паэзія. Гэта яскрава відаць на прыкладзе двух самых знакамітых кітайскіх паэтаў — Лі Бая і Ду Фу. Кітайцы так моцна любяць іх, што часам ставяць поруч і скарочана называюць Лі і Фу. Яны жылі прыкладна ў адзін час. Лі Бай (701 — 762) быў магнатам, а Ду Фу (712 — 770) апошнія свае гады правёў нават не ў хаціне, а ў лодцы-джонцы. Яшчэ два красамоўныя прыклады. Паэт Лі Юй, што жыў у 937 — 978 гадах, быў апошнім імператарам дынастыі Паўднёвая Тан, а вось Лю Юн (987 — 1053) служыў саляным інспектарам у прыморскіх правінцыях.

Паэзіі сацыяльнае паходжанне яе аўтара не важна. Галоўнае — талент. У Лі Бая і Ду Фу ён быў велізарнай жыццядайнай сілы, таму прыцягальнасць яго адчувальная і праз столькі стагоддзяў. Як і ў творах Лі Юя. Праўда, на той час ужо былога імператара. Ён вядомы і як майстар рамансаў малой формы, так званых цы. Лепшыя з іх, а таксама вершы, былі напісаныя пасля таго, як Лі Юй быў скінуты з трона заснавальнікам сунскай дынастыі.

«Месяц бляклы. Туман касмылі...» — зноў жа з шэрагу твораў, якія нараджаюцца, калі на сэрцы хоць і цяжка, але душа разняволена:

*Месяц бляклы. Туман касмылі*
*На азёрную кінуў гладзь.*
*Гэты вечар, відаць, для таго,*
*Каб таемнае стрэчы шукаць.*

*Чаравікі — зіхота-шыццё —*
*Я здыму, панясу ў руках.*
*Па духмяных прыступках наверх*
*Узлячу, як імклівы птах.*

*У паўднёвым палаца крыле,*
*Дзе у залах малююць вясну,*
*Я нарэшце пабачу цябе*
*І у вочы твае зазірну.*

*Як было мне нялёгка прыйсці,*
*А пайсці яшчэ будзе цяжэй.*
*Мой жаданы, я вельмі прашу,*
*Ты пяшчотай мяне адагрэй!*

Кожны з паэтаў, прадстаўленых у кнізе, незалежна ад таго, у якім часе ён жыў, зразумелы нашым сучаснікам. Тое, пра што расказваецца ў творах, выклікае суперажыванне. Як, напрыклад, верш Чжан Цзі (768 — 830) «Сябру, які прапаў без вестак у Тыбеце»:

*Два мінае гады —*
*ў ючжыўскай стаяў ты цвярдыні.*

*Толькі выйшла за сцены,*
*як войска разгромленым стала.*

*З гор Тыбета сюды*
*з той пары не даносяцца весткі.*

*Ты жывы або мёртвы,*
*ды наша расстанне даўжэй.*

*Апусцелы шацёр*
*не сустрэне павек палкаводца.*

*Конь вярнуўся без вершніка.*
*Сцяг падраны ў ашмоцце.*

*Можа, ты шчэ жывы?*
*Прыпадношу з надзеяй ахвяры.*

*На дарогу гляджу*
*і не бачу дарогі ад слёз.*

Туга, роспач у творы... Але і спадзяванне, якое, нягледзячы ні на што, яшчэ цепліцца ў збалелай душы. Такое адчуванне, што ўсё гэта адбылося не так і даўно. Лірычнага героя верша ўспрымаеш нашым сучаснікам, які ў час аднаго з ваенных канфліктаў страціў надзейнага сябра.

А гэта куды ўжо бліжэй да нашых дзён. Паэт Чжу Сян жыў у 1904 — 1933 гадах. Здавалася б, лёс яго складваўся найлепшым чынам. Адукацыю атрымаў у Чыкага. Вярнуўся на радзіму, працаваў выкладчыкам англійскай літаратуры ў Альхойскім універсітэце. Чжу Сян перакладаў У. Шэкспіра, Дж. Кітса, Э. Фіцджэральда, П. Шэлі. Выступаў і як крытык. Паспеў выдаць дзве кнігі. А на душы... Чжу Сян скончыў жыццё самагубствам. Кінуўся ў раку Хуанпу ў Шанхаі.

А пра што ў такім узросце пішуць? Часцей за ўсё пра каханне. Пра гэта і верш Чжу Сяна «Словы». Невялікі, усяго адно чатырохрадкоўе. Як быццам і проста ўсё ў ім, а як шмат сказана (і выказана!). Хоць гэта ва ўсёй паўнаце, бадай, змога зразумець толькі той, хто па-сапраўднаму кахаў (ці кахае), не знаходзячы часам узаемнасці:

*Для жанчыны, быць з якой хачу,*
*Хаваю ў душы нямала слоў...*
*Я ўсё жыццё на іх агонь ішоў,*
*І, сцяўшы вусны, мо таму маўчу.*

Завяршаецца кніга вершам сучаснага паэта Бянь Чжыліня «Цішыня», які дазваляе адчуць, наколькі ў гэтым свеце ўсё мімалётнае, але разам з тым і вечнае:

*Хлапчук вясковы цішыні баіцца,*
*Цвыркуна дамоў прынёс, з ім*
*спакойна спіцца.*
*А калі ўжо вусы вырасціў сам горда,*
*То гадзіннік са святлом*
*ён набыў у горадзе.*
*У дзяцінстве ён зайздросціў*
*траве на магіле,*
*Цвыркуны там стракаталі*
*гучна ў дня на схіле.*
*Ён памёр раптоўна ўчора —*
*маці сын адзіны,*
*А гадзіннік свеціцца, цікае гадзіннік.*

Такая яна, кітайская паэзія. Уважлівая да складаных праблем часу, да лёсу чалавека, але разам з тым і заглыбленая ў свет яго пачуцяў, напоўненая тым, што, уласна кажучы, і робіць чалавека чалавекам.

Усю яе шматстайнасць спазнаеш, знаёмячыся з кнігай «Пад крыламі Дракона», любоўна перакладзенай М. Мятліцкім і гэтаксама любоўна аформленай, стылізаванай пад усходнія матывы мастаком Анатолем Званаровым. Дый выдадзенай дыхтоўна, на мелаванай паперы. Нельга не адзначыць, што гэтыя ўваходзіны ў свет кітайскай паэзіі суправаджаюцца грунтоўнай прадмовай Алеся Карлюкевіча «Спеў душы» і пададзенымі ім звесткамі пра некаторых паэтаў. А ў выніку Кітай стаў нам больш блізкім і зразумелым.

# Равеснік маёй вясны



Крыху дзіўнаватым выглядала наша з ім знаёмства. Тады, у 1966-м, я ўсё пытаўся ў сябе, чаму час бывае такім марудлівым. Ішоў трэці, апошні год маёй службы ў войску, і штодня перад адбоем я закрэсліваў у каляндарыку новую лічбу, ды жаданага «дэмбелю» ўсё яшчэ не было відаць. А неяк, атрымаўшы «увольнительную», надумаў паблукаць па Маскве ды так і даблукаўся да інтэрната Літаратурнага інстытута.

**Казімір КАМЕЙША**

У мяне ў кішэні быў адрасок слухача ВЛК Івана Калесніка. Калі я адчыніў дзверы пакоя, Іван Іванавіч толькі пачынаў заварваць каву. Кароткія зямляцкія абдымкі — і каву давялося адсунуць убок і шукаць больш сур'ёзны пачастунак. Тым часам Іван Іванавіч гукнуў усю астатнюю зямляцкую сябрыну. Неўзабаве да стала падсеў весялун Яўген Крупенька, а ўслед за ім з'явіўся і ён, Мікола Федзюковіч. Паціснулі адзін аднаму рукі. Адразу ж Мікола збегаў у свой пакой і прынёс «Маладосць» з яго вершамі. Прозвішча паэта дагэтуль было мне незнаёма. Тут я і даведаўся, што Мікола паходзіць з вёскі Гутава Драгічынскага раёна, мой равеснік, нядаўна дэмабілізаваўся, а цяпер мае гонар лічыцца студэнтам вядомага на ўсю краіну Літаратурнага інстытута. Я, «недавучаны студэнт» (выраз М. Аўрамчыка), які трапіў на вайсковую службу ў Маскву з трэцяга курса БДУ, шчыра пазайздросціў свайму аднагодку. Мы ўсе тады, маладыя, рваліся ў сцены гэтай прэстыжнай, адзінай у краіне навучальнай установы, наіўна думаючы, што ўсім, хто яе скончае, уручаюць сама менеей крылы няўлоўнага Пегаса. Толькі потым я пераканаўся, што гэта далёка не так. Літаратурны дыплом ніякіх творчых гарантый не дае. Усе яны закладзеныя ў самім таленце, калі ён у цябе ёсць.

Ніякай сталічнай фанабэрыі ў майго новага знаёмага не заўважыў. Трымаўся ён проста, гаварыў гучна, яшчэ больш гучна смяяўся. Мы прагаманілі тады да поўначы, я нават заначаваў у земляроў.

А ў 1968 годзе, завітаўшы на канікулы ў Мінск, Мікола падпісваў мне ўжо сваю першую кнігу паэзіі «Зямля — магніт». Я працаваў тады на Беларускім радыё і першай кнізе паэта прысвяціў цэлую перадачу.

Тады мы, маладыя, былі яшчэ, як кажуць, на раздарожжы. Спрабавалі вызначыць сваё месца, па-свойму ўнікнуць у складанасці жыцця і чалавечых адносін, але нейкай грунтоўнай акрэсленасці ў гэтым пошуку яшчэ не мелі. Але тое, што малады паэт Мікола Федзюковіч адразу засведчыў сваю вернасць усяму зямному і роднаму, падкрэсліўшы гэта яшчэ і самой назвай кнігі, спадабалася многім. Старэйшына нашай паэзіі патрабавальны Максім Лужанін у сваім артыкуле тады адзначаў: «…Паэзія не бывае старой і маладой, яна проста — паэзія. Каму якая справа, хто такі, скажам, Мікола Федзюковіч, чорнавалосы ці ацярушаны сівізною, а ён піша:

*Маё сэрца — вышыня,*
*Заваяваная*
*Пахаванымі на вышыні сябрамі.*

Ясна адно: так сказаць можна, маючы выразныя паэтычныя задаткі». Каго не ўзрадуе такая ацэнка старога майстра?!

Матывы роднага, змалку дарагога сэрцу, загучалі ў вершах паэта свежа і ўзнёсла. Амаль не адчувалася ў іх бясклапотнай летуценнасці і самалюбавання, якія заўсёды падсцерагаюць маладых. Пра сваё роднае малады творца пісаў з добрым сталым роздумам, нібыта за плячыма меў багата пражытых гадоў:

*Іду з людзьмі туды,*
*Дзе на прываллі*
*Маім зярнятам*
*суджана ўзрасці…*
*Жыццё пражыць —*
*Не поле перайсці?*
*Пражыць жыццё —*
*Не разлучыцца з полем!*

У 1970 годзе пасля заканчэння інстытута Мікола Федзюковіч вярнуўся ў Мінск. Вярнуўся ўжо чалавекам сямейным. Папрацаваўшы нейкі час у выдавецтве «Народная асвета», надоўга асталяваўся ў «Чырвонай змене». У тыя гады ў літаратуру касякамі ішлі новыя імёны, і ён, ужо маючы пэўны досвед, спяшаўся працягнуць руку падтрымкі тым, хто рабіў яшчэ кволыя крокі на творчай сцяжыне. Многія з іх сёння плённа працуюць у літаратуры. Вучні, на жаль, маюць звычку забываць сваіх настаўнікаў, але гэта не робіць ім гонару.

У наступных кнігах Міколы Федзюковіча — і ў «Мілавіцы» (1971), і ў «Птушыным граі» (1976), і ў «Макавым цвеце» (1979) — вельмі выразна гучаць спавядальныя матывы. У іх шмат роздуму пра чалавечае шчасце, пра зменлівы характар нашага жыцця і самых людзей. Не зусім гладкім быў шлях і ў самога паэта. Гэта адчуваецца і ў настраёвасці яго ўдумлівай лірыкі:

*Неўпрыкмет заблудзіць*
*сярод вуліц,*
*прытаміцца і моўчкі сачыць,*
*як сталіца галубіць і туліць*
*люд святочны —*
*да позняй начы;*

*…і спыніцца, калі прад агнямі*
*чыйсьці позірк,*
*як промень, мільгне:*
*ці не брат мой мяне даганяе,*
*ці не сын мой мінае мяне…*

Пісаў ён у апошнія гады даволі шмат. Зрэдку вершы друкаваліся ў газетах і часопісах. Але ў былой вялікай дзяржаве і ў самім часе павеялі новыя вятры. Шмат крычалася пра так званую перабудову, а на самай справе ўсё, некалі з цяжкасцю дабытае, на вачах руйнавалася. Цярпела і духоўнасць. Таму і не варта здзіўляцца, што ў вершах апошніх гадоў Міколы Федзюковіча з'явілася вельмі шмат сумных матываў, нават расчаравання:

*Не ў час пагас маіх надзей экран:*
*Ні плахі, ні сярмягі, ні адвагі…*

Сумны спеў паэта — гэта яшчэ не знак безвыходнасці, а, хутчэй за ўсё, выхад з яе. Гэта заўсёды яшчэ і адказнасць, якую бярэ на сябе творца, адпраўляючыся ў свет, да людзей. Менавіта такую адказнасць адчуваеш і ў вершах Міколы Федзюковіча.

Памёр ён 8 студзеня 1997 года ў самым росквіце творчых сіл. Перад гэтым у іншы свет адправілася яго маці, якая дажывала свой век разам з сынам.

Сябры паэта паклапаціліся, каб лепшае з напісанага ім усё ж дайшло да чытача, выдалі ладны том яго выбраных твораў.

Сёлета яму споўнілася б семдзесят… Для мяне ж ён застаецца тым самым маладым першакурснікам літінстытута, з якім мы пазнаёміліся некалі ў Маскве, а потым колькі гадоў, нага ў нагу, плячо да пляча, снавалі па рэдакцыйных калідорах, па вуліцах і праспектах, думкамі сваімі даганяючы думкі нашых сучаснікаў.

# Будзь шчаслівы, Андрэйка!




У самой назве аповесці Алега Ждана «Свята працягваецца, ці Шчаня, веласіпед і гуз на лбе» («Выдавецкі дом «Звязда», 2013) прыхаваны падтэкст: нямала гузакоў атрымае галоўны герой твора Андрэй Бабушкін, ступіўшы на шлях пазнання. Падзеі аўтар аповесці падае праз успрыманне першакласніка, які з часам выпрацоўвае свой індывідуальны, актыўны стыль жыццядзейнасці (удзел у канцэрце, экскурсіі па горадзе, пошук скарбаў каля Замкавай гары).

Вось што расказвае Андрэй пра сябе: «Есть у меня в характере серьёзный недостаток: я отвлекаюсь. Начинаю одно, делаю другое. Надену утром одну штанину и забуду, что надо надеть другую. Надену один рукав и тогда вспомню о штанине». Неардынарны герой: смяшлівы, нават загадкавы. Не схіляючыся да ілюстрацыйнасці, ведучы размову менавіта ад імя хлопчыка, аўтар пазбег дыдактызму і ментарскага тону.

Аповесць упрыгожвае гумар. Тут і меркаванне Андрэя пра дрэнную адзнаку, і змястоўныя эпізоды, калі ўвесь клас прыходзіць да хлопчыка, каб паназіраць за галубамі («когда появлялась их мать с каким-нибудь лакомством, они раскрывали клювы шире собственной головы»). Пяшчотная аўтарская ўсмешка суправаджае кожны ўчынак галоўнага героя.

Усміхнецца чытач, азнаёміўшыся з раздзелам «У каго склероз?». Бабуля Андрэйкі ўзяла з сабой на базар унука. Там хлопчык сустрэў сябра, які з сумкай у руках чакаў сваю бабулю, занятую пакупкамі. Нядоўга думаючы, сябры накуплялі сабе прысмакаў. А далей пайшло праз пень-калоду. Сумкі з прадуктамі хлопцы паблыталі.

Дома бабуля Андрэя знайшла тое, чаго не купляла і забедавала, што ў яе, відаць, склероз пачынаецца. І смех, і грэх!

А вось эпізод пра няўдалае катанне. Першы раз стаў Андрэй на канькі і выслухоўвае парады брата Міці: «Научись стоять на коньках, а тогда уже пробуй, — сказал он. А потом добавил: — Тебе еще повезло. Я, помню, сразу нос разбил. Даже два носа.

— Как два?

— Очень просто. Свой и чужой. Столкнулся».

Алег Ждан прапагандуе педагагічны гуманізм, асвятляе тэму першай сацыялізацыі, пратэстуе супраць утылітарызацыі міжасабовых адносін.

Не ўсё ладзіцца ў Андрэя напачатку. Ва ўчынках галоўнага героя адсутнічае самарэгуляцыя, імкненне сабрацца. Аднак з цягам часу ў паводзінах няўрымслівага хлопчыка адчуваюцца змены. І найперш яны выяўляюцца ў школе, дзе фарміруюцца асновы сацыяльных адносін. Іх удзельнікамі становяцца чулая настаўніца Наталля Міхайлаўна, «страшны» дырэктар школы, сябры-аднакласнікі — Лена Гушчына, Юра Салавей, Міхась Касценчык. І канечне ж, брат Міця, з якім «едим из своих тарелок, но моя ложка отправляется в рот Мити, а Митина — в мой. Это мы называем "завтрак по-братски"».

Пісьменнік прасачыў у творы (а ён адрасаваны і дарослым), як адбываецца станаўленне новай сацыяльнай ролі, выявіў здольнасць Андрэя да аналізу, абагульнення, самаацэнкі і самарэгуляцыі ў працэсе пазнання.

Паказваючы эмацыянальны стан Андрэйкі, Алег Ждан выкарыстоўвае ўласны педагагічны досвед (аўтар — былы выпускнік Магілёўскага педагагічнага інстытута).

Атмасфера свята пануе ў аповесці. Таксама ў творы шмат прыгод, што забяспечвае займальнасць тэксту.

Радуе стыль аўтара. Слова ў празаіка сапраўды ёмістае, дакладнае.

Алег Ждан не абмінае ўвагай і тое, як успрымаюць мову самі героі. Асабліва пашыраецца ўяўленне пра лексічнае значэнне слова ў раздзелах «Не могу через не могу», «Лето. Смешинки и говорунчики», «Они прилетели», «В подземелье».

У кнізе чытач знойдзе адказы на «ўнутраныя» пытанні аўтара: як зрабіць навучанне радасным, як дапамагчы раскрыць здольнасці, забяспечыць пачатковы этап адаптацыі да ўмоў школьнага жыцця? Так што ў Алега Ждана «базіс навуковы», кажучы словамі вядомага пашанотнага дыдакта Занкова.

Пісьменнік вызначыў у творы ўмовы аптымальнага развіцця светапогляду героя, даў уяўленне пра прыроду рэчаў праз сістэму каштоўнасных ідэалаў асобы. Аўтар паказвае, як праз пакаянне дасягаецца ў рэшце рэшт узаемаразуменне. Спашлюся на раздзел аповесці «Похититель». Міця дазволіў свайму брату карыстацца веласіпедам. Яго, аднак, скралі. Хлопцы напісалі аб'яву: калі хто ведае што пра скрадзены каля крамы веласіпед, патэлефануйце. Нехта і адгукнуўся. Паслухаем той лёсавызначальны дыялог ад пачатку да канца:

«— Ало! — закричал я изо всех сил.

Трубка не ответила.

— Ало! — еще громче закричал я».

І раптам Андрэйка пачуў:

«— Это твой велосипед?

— Мой, — тихо ответил я».

Напружанне ўзрастае.

«— Тебе влетело?

— Какая разница? — спросил я.

— Ты обижаешься?

— Странный ты человек, — ответил я. — Нет, я тебе очень благодарен. Спасибо! — Он опять замолчал. — И вообще, незачем звонить. Катайся на здоровье и радуйся. — И я положил трубку».

Незнаёмец патэлефанаваў зноў:

«— Ты понимаешь… Дело в том, что у меня тоже увели велосипед.

— Вот как! Значит, кто-то увёл у тебя, а ты у меня. Выходит, я тоже должен увести у кого-нибудь. Знаешь, что получится, если так поступать дальше по цепочке?

— Угу, — сказал он грустно.

— Из-за какого-то одного воришки весь мир станет нечестным. Тогда и тебе станет жить легко и приятно.

— Ага, — ещё более грустно сказал он».

Незнаёмы хлапчук у пукатых акулярах вярнуў Андрэю веласіпед, паставіўшы яго ля крамы.

Падсумоўваючы ўсё вышэйсказанае, зазначым: Алег Аляксеевіч, якога мы ведалі раней як аўтара гістарычных раманаў і аповесцей, напісаў светлую, добрую, пазнавальную кніжку для дзяцей.

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

## Уладзімір КАРЫЗНА



Яшчэ ў дзяцінстве Уладзіміра Карызну ўсё ўладней пачалі забіраць у незваротны палон музыка, народныя беларускія мелодыі, і прычынай таму былі даўнія матчыны калыханкі, напевы бацькавай балалайкі, вясёлыя і журлівыя песні сялян з вёскі Закружка, што на беразе Пцічы пад Мінскам. Прайшоў час, і песні на словы паэта разляцеліся па ўсёй Беларусі. Пра непарыўную сувязь з Бацькаўшчынай сведчаць і назвы яго кніг: «Край мой сінявокі», «Жураўліны досвітак», «Святло ліўня», «Цеплыня», «Цішыня баразны», «Шумяць вербы» ды іншыя. Перад намі творца чароўнага веснавога настрою, бездакорнай душэўнай чысціні, незвычайнай чалавечай пяшчоты і Боскай міласэрнасці. Сваёй дзівоснай меладычнасцю завааявалі папулярнасць такія творы паэта, як «Зямля мая», «Люблю цябе, Белая Русь», «Азёры дабрыні», «Вішнямі белымі», «Хаджу сунічнымі барамі», «Зорачка мая», «Беларусь мая сінявокая» і дзясяткі іншых. На яго словы музыку напісалі таленавітыя кампазітары — А. Багатыроў, Я. Глебаў, Д. Смольскі, А. Мдзівані, І. Лучанок, Л. Захлеўны, У. Прохараў, Э. Зарыцкі, В. Іваноў. Вядомы Уладзімір Карызна і як дзіцячы паэт. Акрамя таго, ён аўтар сучаснага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» шчыра віншуе славутага творцу, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, з ягоным 75-годдзем.

### Гэта продкаў зямля

*Над любімай зямлёй, над адзінай маёй,*
*Ад блакіту азёр загараецца ранне.*
*Росным клёкатам бусел на ліпе старой*
*Шле прыродзе і людзям сваё*
*прывітанне.*

*Цешыць вочы святло белагрудых бяроз,*
*Што стаяць каля плота, нібы*
*маладзіцы.*
*Я святым хлапчуком пад гармонік*
*тут рос*
*І паілі мяне салаўі і крыніцы.*

*Тут багацця крыламі буслоў не абняць,*
*Гэта продкаў зямля дарагая, святая,*
*Нездарма ва ўсе вочы маланкі глядзяць,*
*Калі майскай парой гром зямлю абдымае.*

### Купала і Колас

*Каб ночка душу не прыспала,*
*Каб мець сваю долю і голас, —*
*У сэрцы маланкай Купала.*
*Жывою крыніцаю Колас.*

*Іх песні жальбы і жалейкі*
*Не з нейкай далёкай званіцы —*
*Яны ад матулі навекі,*
*Яны з нашай роднай зямліцы.*

*Купала і Колас, Купала і Колас —*
*Як громам вясновым іх чуецца голас:*
*Зямля ажывае, душа ажывае,*
*А Колас спявае, Купала спявае.*

*Любіце іх чыстай слязою,*
*Шануйце іх сонейкам веснім —*
*Купалавы песні з расою*
*І Коласа дзіўныя песні!*

### Радзіма

*Бярозы ля хат і рабіны,*
*Навокал лясы ды азёры —*
*Краса маёй слаўнай Радзімы,*
*Маёй Беларусі прасторы.*

*І птушкі мілей, як усюды,*
*Ды ўсё тут ад Бога, такое,*
*Што ехаць не трэба нікуды,*
*Каб шчасце спазнаць дарагое.*

*Навек паланілі красою*
*Нас матчыны песні на волі,*
*Таму нас ніякай вайною*
*Скарыць немагчыма ніколі!*

### Дзень мой

*Зоркі чыстаю расою*
*На лугах нябёс расталі —*
*І рачулка-весялуха*
*Светла радуецца дню.*
*Птушкі з гнёздаў узляцелі —*
*Заспявалі, засвісталі,*
*Абудзілі, разгайдалі*
*Залатую вышыню.*

*Новы дзень ідзе па свеце*
*І жывое ўсё хістае,*
*Хтосьці птушкам падпявае,*
*Хтосьці б'е ў іх мірны лёт.*
*А зямлю з яе грамамі*
*Ўсё саломінка трымае,*
*На якой жытнёвы колас*
*Спее кожны — кожны год.*

*Дзень мой зычны і нязвычны,*
*Я з табой, а ты са мною,*
*Нібы тайны пошум бору*
*І разліў палескіх рэк.*
*Я хачу, каб ты свяціўся*
*Не слязою, а расою,*
*Каб табою ганарыўся,*
*Любаваўся чалавек!*

### Чараўніца

*Калі зрабіць ты ўмееш*
*Так, што за міг адзіны*
*На вуліцы сцямнее*
*І неба стане сінім,*

*Чаромха тайна гляне*
*Вачыма белых кветак —*
*Ажно душа растане,*
*І стане светла гэтак!*

*Калі табе па сіле*
*Замесці свет снягамі*
*Ці зоркі, быццам іней,*
*Абтрэсці над садамі,*

*Калі і сон навеяць*
*Ты можаш, каб прысніцца,*
*Ды хто табе паверыць,*
*Што ты не чараўніца!*

### Ёсць крыніцы

*Нездарма нарадзіўся я ў маі,*
*У вясной зачараваны міг:*
*Салаўі мяне песняй віталі,*
*Каб заўсёды я помніў пра іх.*

*Ад той радаснай музыкі весняй*
*Ля Пцічы, між захмеленых траў*
*Зашчымела душа мая песняй —*
*І я людзям яе заспяваў…*

*Адхадзілі гады, адкасілі,*
*І трывогу мне нечага біць:*
*Ёсць крыніцы, дзе тояцца сілы,*
*Каб Радзіму і песню любіць!*

### Зачараванне

*Цвітуць сады — і ноч святлее,*
*А зоркі кветкамі ў вадзе.*
*І сэрца чуйнага надзея*
*У рай нязведаны вядзе.*

*Салоўка сам аж замірае,*
*Калі над рэчкаю спявае.*
*Ад песні дзіўнай, песні той*
*Душа становіцца святой.*

*Усё хвалюе і трывожыць*
*Красой жывою, трапяткой.*
*Вярбінка кожная варожыць*
*На гэты мілы неспакой.*

*Вясна — душы зачараванне!*
*Пара шчаслівая кахання:*
*Лісточкам сэрцайка трымціць,*
*А ночка зоркаю ляціць.*

### Вечар

*Не карай ты сэрца сваё толькі:*
*Тут не абышлося, знай, без полькі,*

*Гэткаю была яна ўжо мілай,*
*Нават зоркі ў небе запаліла,*

*Зазваніла срэбнымі званкамі,*
*Паманіла белымі рукамі!*

*Ля чаромхі з салаўём над кручай*
*Укалола ружаю балючай…*

*Не карай ты сэрца сваё толькі:*
*Тут не абышлося, знай, без полькі!*

### Рукі чароўныя

*Рукі жаночыя —*
*Маміны рукі,*
*Любяць вас дзеці*
*І любяць унукі.*

*Сэрцам вы сцелеце*
*Нашу пасцельку*
*І не трымаеце моцна*
*Капейку.*

*Сум, нібы хмарку,*
*Прыгожа прагоніце,*
*Нас ад балючай слязы*
*Абароніце.*

*Рукі любімыя,*
*Рукі чароўныя,*
*Сілы спагаднай*
*І сонейка поўныя.*

## Міхась СТРЫГАЛЁЎ



Спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта Міхася Стрыгалёва. Нарадзіўся ён у вёсцы Недайка Буда-Кашалёўскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыўшы Беларускі політэхнічны інстытут, працаваў інжынерам, завочна вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Пасля вяртання на Радзіму выдаў на беларускай мове зборнікі паэзіі «Белая Русь», «Ростань», «Чырвоныя казармы», «Кола фартуны», «Дзявяты кардон» і іншыя.

### Заўтра лета — змые дождж пал

*Заўтра лета — дагараюць свечкі*
*На каштанах вуліц гарадскіх.*
*Нібы ў Палавецкім Полі скіф*
*К помніку адвечнаму на стрэчу*
*Да цябе спяшаю, Горкі Міф!*

*Водар палыну плыве, бы з Мора, —*
*Да Нямігі далятае шквал…*
*Ў гіблым месцы чуюцца дакоры:*
*Смерці ўскрыкі, ярасці напал…*
*Бітвы шум і гул пад*
*небным хорам…*
*Электрычак — праз*
*падземны хорам:*
*Нібы Мора шум з-пад*
*вечных скал…*
*Заўтра — лета, змые*
*дождж пал...*

### Ліпа векавая

I

*Родная сяліба. Сэрца*
*саграваe*
*Ціхім шумам ліпа —*
*ліпа векавая.*
*Ўзімку — голля рыпам,*
*летам — медацветам, —*
*Лашчыць ранкам ліпа*
*матчыным прыветам.*

*Ліпень мой на ўзлёце —*
*пахне мёдам лета.*
*Спеліцца ў народзе*
*добрая прыкмета:*
*Поўны мёду вулей —*
*ні вайны, ні мору.*
*Свет — у гудзе, гуле —*
*ранак белазоры.*

*Белых, сініх красак!*
*З ураджаем будзем!*
*Шчодра на палетках*
*урадзіла бульба…*
*Радасць і надзея*
*граюць прамяніста.*
*Гэй, маленства, дзе ты?*
*Дзе — маё дзяцінства?*

*Помню белы ліпень.*
*Маці мне спявае:*
*«Дзе ж ты, мая ліпа,*
*ліпа векавая?»*

II

*Так, на сэрцы — восень.*
*Галава сівая,*
*Ды яшчэ не спета*
*песня маладая!*
*Снегам зацярушыць —*
*зарыпяць асверы.*
*У маленства скачуць*
*белыя завеі.*

*На пагорку ў хаце*
*пахне рутай-мятай.*
*Як жа мы гулялі*
*ў хованкі за хатай!*
*Смех і грэх… А нехта*
*песню напявае:*
*«Дзе ж ты, мая ліпа —*
*ліпа векавая?»*

*Юнаком у горад з'ехаў*
*з вёскі-дому.*
*У тайзе з будоўлі*
*не набіў аскому.*
*Ах, як пахне снегам!*
*Дні бягуць за днямі.*
*Хочацца заплакаць*
*даўнімі слязамі.*

*На пагорку — восень.*
*А жыццё — са стромы.*
*Галава сівая*
*хіліцца ад стомы.*
*У няспынным бегу*
*строга з нас спытае —*
*Век такі кароткі —*
*ліпа векавая…*

### У лепшае верыцца

*Цвіценне верасу —*
*У лепшае верыцца:*
*У поўныя соты*
*Кахання, работы.*

*У песню-прызванне,*
*У раніцы ззянне,*
*У шчодрасць людскую.*
*У праўду святую.*
*Ў сцягоў палымянасць,*
*У чыстае неба —*
*Ў саюз апантаны*
*Металу і хлеба…*

*У лепшае верыцца:*
*Цвіценне верасу…*

### Нарог лятучы, трапяткі!

*У жыце гоман васількоў —*
*Чые чуваць там галасы?*
*На спаконвечнай*
*роднай мове*
*Пяюць і шэпчуць каласы:*

*«Чакаем жніўнае хвіліны,*
*Каб зернем легчы на такі,*
*На араллю —*
*пад жураўліны*
*Нарог лятучы,*
*трапяткі…»*

### Паляцела птушка ў вырай

*Паляцела птушка ў вырай,*
*Заранятка-зараніца,*
*Дня пачатак*
*вокам зырыць —*
*Пераспелаю суніцай…*

*Блікі сонейка зайгралі*
*У санлівай зорнай яве.*
*Мо буйныя росы ўранні*
*Сыпанула птушка*
*ў травы?*

*Паляцела птушка ў вырай:*
*Абляцець зямлю ёй трэба,*
*Каб світальнай*
*песняй шчырай*
*Зазвінець у родным небе!*


Фота Кастуся Дробава



# Алеся КУЗЬМІЧ

# Дзьмухаўцы

Баба Марыля наўрад ці забудзе тую першую раніцу, калі прачнулася без прывычнага спеву пеўняў і брэху сабак. Тады Ірына і Яўген яшчэ спалі. Баба Марыля па-гаспадарску завязала фартух і пайшла на кухню гатаваць сняданак. Зварыла кашы, насмажыла прывезеных з вёскі сала з яйкамі. Як толькі ўсё на стол паставіла, пачула, што адчыніліся дзверы ў пакоі. Хутка на кухні з'явілася заспаная Ірына, а ўслед за ёй і Яўген. Убачыўшы тое, што баба Марыля паставіла на стол, Яўген пачухаў патыліцу:

— Ірына, гэта што такое?

Ірына тады паціснула плячамі.

— Мама, што ты тут выдумала? — у сваю чаргу запыталася Ірына, нібы баба Марыля не чула слоў зяця.

— Паесці ж вам перад працай трэба, — клапатліва пачала тады завіхацца каля стала баба Марыля, але, заўважыўшы разгубленасць на тварах дачкі і нейкую здзеклівую ўсмешку зяця, які, дарэчы, зусім не цураўся есці гэтыя ж самыя скваркі, калі раз на два гады, а то і радзей, прыязджаў да яе ў вёску, сумелася і апусціла рукі.

Той раніцай сняданак, прыгатаваны бабай Марыляй, так і застаўся некранутым. Ірына з мужам нават кавы не папілі. Потым дачка растлумачыла: стараюцца весці здаровы лад жыцця. Мяса амаль не ядуць, толькі садавіну, агародніну і рыбу. Не зразумела тады баба Марыля нічога з тых навуковых доказаў, але паслухмяна выслухала. Выходзячы з кухні, спынілася і павярнулася да дачкі:

— Ведаеш, бацька твой еў усё: і мяса, і сала… Бо і працаваў цяжка. Але чамусьці здаравейшы за твайго Яўгена быў.

Дачка не на жарт пакрыўдзілася. Яна ж толькі-толькі расказала маці, што ў мужа пачаліся праблемы са здароўем, трэба прайсці абследаванне ў платнай клініцы. Яўген спіць дрэнна, скардзіцца на пастаянны галаўны боль. А тут маці такое заяўляе… Некалькі дзён не размаўлялі. Зрэшты, баба Марыля гэтага і не заўважыла — яна і так нячаста дачку бачыла.

— Чаго вам не хапае, мама? — верагодна, Ірына вырашыла высветліць узаемаадносіны з маці сёння раз і назаўсёды.

Раней Ірына называла бабу Марылю, як і большасць дзяцей называе сваіх матуль, «мамачка». Але з пераездам у сталіцу ўсё змянілася. Бывала, што і Марыяй Паўлаўнай яе называла, асабліва калі быў побач хто чужы. Мабыць, той чужы не заўжды і здагадваўся, што калісьці Марыя Паўлаўна была проста любімай мамачкай, для якой дачушка Ірынка прыносіла палявыя кветкі, была адзінай і самай добрай, якая на пытанне дачкі пра паступленне вучыцца ў сталіцу адказала згодай, хаця матчына сэрца тады рвалася на кавалкі і зусім не было згодна з тым, што гаварыў розум. Няхай бы скончыла тэхнікум, пайшла б у калгас працаваць якім аграномам ці заатэхнікам, замуж бы выйшла, дзіця б нарадзіла, а мо і не адно.

— Усяго мне хапае, Ірыначка, толькі цябе не хапае… Ды ўнукаў…

— Старая песня. Пра ўнукаў я табе ўжо казала. Ложак, пялюшкі, распашонкі, памперсы… Думаеш, яно так лёгка?

— Я цябе вось без памперсаў выгадавала. Здаецца, нішто сабе дзяўчына атрымалася, — паспрабавала жартаваць баба Марыля.

— Ой, мама, зноў вы свае старэчыя ўспаміны. Цяпер ніхто не завешвае кватэру пялюшкамі. Гэта ўсё — мінулы век. Як і вашае смажанне. Навукова даказана, што смажаная ежа ўчыняе арганізму вялікую шкоду. Ад яе столькі хвароб, што не пералічыць. Забывайцеся ўжо на гэта, мама. Зрэшты, вы ж не ў вёсцы цяпер, а ў горадзе жывяце. Ды не ў якімнебудзь там райцэнтры, а ў сталіцы.

— У сталіцы, — ціха паўтарыла маці. — Гэтая сталіца ў мяне адзіную дачку адабрала.

Зімой баба Марыля на вуліцу не выходзіла, толькі на балкон калі-небудзь. Там, на балконе, яна заплюшчвала вочы і ўяўляла сабе пакінутую амаль год таму вёсачку, маленькую — усяго толькі тры двары жылыя на зіму заставаліся, летам прыязджалі двое дачнікаў, — але такую родную, такую любімую, такую цяпер недасягальную. Вось здаецца бабе Марылі, што чуе яна глухое пакрэхтванне суседа Захара, які ў любую пару года раніцай выходзіў да веснічак на вуліцу папаліць. Звычайна Захар, пакуль паліў, паспяваў прывітацца з усімі аднавяскоўцамі, нават тады, калі вёска была значна большай, што ўжо казаць цяпер. Сумуе баба Марыля і па суседцы, колішняй сяброўцы, з якой разам хадзілі на танцы, Вользе Міронавай. Хоць і аднагодкі, а Вольга ўжо некалькі год як не ходзіць, ляжыць пасля інсульту, даглядае яе сын, які адмыслова дзеля гэтага пераехаў з райцэнтра ў вёску. Баба Марыля амаль кожны вечар да Вольгі наведвалася, садзілася побач на стул і расказвала, як дзень прайшоў. Потым разам успаміналі былое. Калі-нікалі смяяліся, часам плакалі. Як там цяпер Вольга?.. Цяжка ёй, мабыць.

З надыходам вясны стала бабе Марылі зусім тужліва. Іншая справа — у вёсцы. Вясна — у кожным подыху, у кожным позірку, нават, здаецца, у кожным слове. Бабе Марылі мімаволі ўспамінаецца вярба, якая расла за яе агародам. З той вярбы зразала яна сабе і Вользе па букецікy пушыстых галінак напярэдадні Вербнай нядзелі, увечары перавязвала іх белай стужкай і несла да Вольгі. Царквы ў вёсцы не было, звычайна прасілі Вользінага Максіма, каб з'ездзіў у райцэнтр пасвяціў. Маўклівы Максім ніколі не адмаўляў. Сабраўшы ў аднавяскоўцаў на Вербную нядзелю вярбу, а на Вялікдзень — яйкі з велікоднымі булкамі, ехаў у царкву.

Нядаўна зноў была Вербная нядзеля. Баба Марыля з раніцы хадзіла маркотная, не магла знайсці сабе месца. Не за сябе перажывала — за Вольгу. Хто ж ёй вярбы ў гэтым годзе прынясе, сына мо яна і пасаромеецца прасіць, ведае, што яму і без вярбы хапае клопату.

А на Вялікдзень баба Марыля адчула нешта такое святочнае на душы, захацелася да людзей, радасцю падзяліцца, настроем сваім, павітаць па-святочнаму, як яно трэба ў гэты дзень. Баба Марыля апранула шэранькую кофту, якую калісьці купіла ў райцэнтры, тады яшчэ быў муж жывы. Акуратна зашпіліла маленькія гузікі. Яна рэдка вымала з шафы гэтую кофту, толькі на святы. Асабліва берагла яе, бо астатнія былі самавязаныя, а гэтая — з крамы. Завязала белую хустку ў ружачкі. Сабраўшыся так, выйшла ў двор. Горад яшчэ спаў. Баба Марыля прысела на лаўку, з усмешкай зірнула вакол. Эх, не ведаюць гэтыя занятыя гараджане сапраўднага паветра. Хай бы хоць на выхадныя ехалі ў вёску.



*Малюнак Вікенція Пузанкевіча*

Прасядзела на лаўцы баба Марыля да таго, як з пад'езда выйшаў першы, хто прачнуўся. На дзіва, гэта быў Ірынін Яўген. Паглядзеўшы на цешчу, коратка параіў ісці дамоў, пакуль Ірына не ўбачыла «гэтых дзівосаў». Тым і скончыўся Вялікдзень для бабы Марылі. З таго дня яна цвёрда вырашыла вярнуцца ў вёску. Вось толькі трэба пагаварыць з дачкой, якая калісьці няправільна зразумела матчыны словы пра тое, што ў вёсцы жыць няпроста стала. Зусім і не прасіла баба Марыля забіраць яе ў горад, зусім і не хацела быць для дачкі і зяця надакучлівай суседкай. Проста хацела нагадаць дачцэ, што прыязджаць часцей трэба, хоць раз на год, ды і тэлефанаваць хаця б раз на тыдзень. Не зразумела Ірына, не зразумела…

А пасля была Радаўніца. Упершыню за ўсе тыя гады, як не стала Ірынінага бацькі, баба Марыля не прыйшла на магілкі, не пасядзела на нізенькай лавачцы, што калісьці сам Іван і зрабіў, не звярнулася ў думках да яго, чалавека, які вельмі яе кахаў і ніводнага разу не сказаў слова ўпоперак. Напярэдадні Радаўнічнага аўторка, дзесьці ў суботу, баба Марыля паспрабавала пагаварыць з дачкой, растлумачыць, што наведаць магілу бацькі ў гэты дзень проста неабходна, гэта ўжо даўнішняя традыцыя. Ірына паглядзела на маці заспанымі вачамі, усміхнулася Яўгену і вынесла пастанову — ехаць за сотню кіламетраў толькі для таго, каб пахадзіць ад крыжа да помніка на могілках, не мае сэнсу.

У аўторак баба Марыля горка плакала. Плакала ад безвыходнасці, ад крыўды, ад адчування сваёй непатрэбнасці. Ірына ў гэты дзень разам з Яўгенам паехалі з сябрамі да некага на лецішча. Баба Марыля засталася адна. Яна перабірала нешматлікія фотаздымкі, на якіх дачка яшчэ не была такой, якой стала. Вось Ірынка прытулілася да матулі, абхапіла рукамі за шыю, і такая пяшчота ў дзіцячых вачах, такая любоў, дабрыня. І хто б сказаў, што з гэтай хударлявай звычайнай дзяўчынкі вырасце такая прынцыповая і непахісная ў адносінах да маці Ірына Іванаўна…

Раптам сярод фотаздымкаў баба Марыля ўбачыла кавалак белай паперы з лічбамі. Не адразу зразумела старая, што гэта за паперчына і што на ёй напісана.

— Божа ж мой, Божа. Гэта ж нумар тэлефона… Зараз я… Вользе… Ой, дурніца, забылася ж зусім… Ой, Волечка, ой, зараз, — баба Марыля ледзь не бягом кінулася да тэлефона.

Гэты нумар запісаў ёй Вользін Максім перад тым, як баба Марыля сабралася ехаць у горад. І Вольга прасіла… Так прасіла тэлефанаваць… А яна забылася. Ужо амаль год прайшоў, як паехала. І ніводнага разу не патэлефанавала.

Доўгія гудкі ў трубцы насцярожылі… Падумаўшы, што зблыталася ў лічбах, баба Марыля набрала нумар яшчэ раз.

— Алё, — трубку ўзяў Максім.

— Максімка, здароў, даражэнькі, — баба Марыля ледзь зноў не расплакалася, — гэта я, Марыля. Мо ўжо і не памятаеш?

— Чаму ж? Памятаю. Як справы ў вас, баба Марыля? — запытаўся Максім.

Твар старой расквітнеўся ўсмешкай. Як даўно не чула яна такога простага пытання, як даўно яна не чула суседзяў…

— Жывая, здаровая, здаецца. Не хварэю. Сумую без вас. Вельмі сумую…

— Маці таксама сумавала, калі вы паехалі, — сказаў Максім.

— Максім, як жа маці? Як справы ў яе? Ці можна з ёй пагаварыць? Не спіць яна? — баба Марыля хвалявалася.

— Маці?.. — Максім разгублена змоўк. — Маці няма. Яна ж памерла… Дзесьці праз месяц пасля таго, як вы паехалі… Я тэлефанаваў Ірыне. Вы тады ў санаторыі былі… Няўжо яна вам нічога не сказала?..

— У санаторыі?.. — ледзь чутна прамовіла баба Марыля.

Недзе мільгнула думка, што не варта расказваць Максіму, што ні ў якім санаторыі яна не была, а дачка проста прамаўчала. Што да гэтага Максіму?.. Баба Марыля, бы знямоглая, села у глыбокае крэсла каля тэлефона. Пастаралася ўзяць сябе ў рукі.

— Як яна памерла, Максімка? Дужа пакутавала?

— Не, мабыць, бо ноччу памерла, калі спала. А напярэдадні вечарам шкадавала, што вы паехалі. Расчулілася трохі, плакала…

— Прабач, што пытаюся пра ўсё гэта, — ледзь не шэптам прамовіла баба Марыля. — Мне ж таксама хутка туды… Там з ёй сустрэнемся. Раскажу ёй пра цябе… Добры ты ў яе сын, пашчасціла ёй.

І раптам так крыўдна стала на душы ў старой. За сябе, за дачку, за ўсё тое, што адбылося ў вёсцы пасля таго, як яна адтуль паехала. Баба Марыля ні на хвіліну не сумнявалася — Вольга была б жывая, калі б сяброўка не паехала тады да дачкі, калі б не кінула яе.

— Трымайся там, Максімка, — ледзь вымавіла.

— А вы прыязджайце, баба Марыля. Не думайце, я не забыўся, што абяцаў хату дагледзець вашу. Хоць сёння прыязджай ды жыві, — у голасе Максіма прагучала не зразумелая бабе Марылі надзея. — І на могілкі хадзіў перад Радаўніцай. У дзеда Івана таксама прыбраў трохі.

— Хутка ўжо… Цяпер ужо хутка прыеду, — прашаптала баба Марыля.

Старой раптам захацелася спаць. Яна нават не здолела дайсці да свайго пакоя, засталася ў крэсле. Схіліла да пляча галаву… Заплюшчыла вочы…

І раптам убачыла перад сабой Вольгу, але не тую, якую бачыла апошнім часам, а маладую, гадоў, можа, крыху за дваццаць. Вольга ішла шырокім полем, густа ўсеяным яркажоўтымі дзьмухаўцамі. Прыгожая, зграбная, амаль непазнавальная Вольга не ішла — плыла сярод дзьмухаўцоў. Убачыўшы Марылю, усміхнулася і памахала ёй рукой, нібы клікала да сябе. Марыля разумела, што глядзіць на сябе аднекуль зверху, бачыць сябе таксама маладой, у тым узросце, калі яна яшчэ не выйшла замуж, калі толькі-толькі пазнаёмілася са сваім Іванам… А гавораць, што нельга вярнуцца ў мінулае. Памыляюцца. Якое шчасце, што памыляюцца… Як добра атрымалася! Цяпер Марыля будзе разумнейшая, яна выправіць усе памылкі, яна выхавае Ірыну па-іншаму…

На твары бабы Марылі з'явілася ўсмешка…

# Раскоша ці ідэалагічная выверанасць?

**Ці любіў Панцеляймон Панамарэнка джаз? Як здымаў партызанскую хроніку Іосіф Вейняровіч? Ці мог за савецкім часам мітрапаліт выступіць на мітынгу? Часопіс «Нёман» прапануе фрагменты даследавання кандыдата мастацтвазнаўства, дацэнта Канстанціна Рэмішэўскага, якое прысвечана беларускай кінахроніцы. У № 5 чытачы змогуць пазнаёміцца з гісторыяй і асаблівасцямі ваеннага кіналетапісу, а ў № 6 — пасляваенных нефарматных выпускаў кінаперыёдыкі. Увазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва» — урывак пра першыя сюжэты беларускай ваеннай кінахронікі.**

Канстанцін РЭМІШЭЎСКІ

У снежні 1941-га Галоўнае палітычнае ўпраўленне Чырвонай Арміі вырашыла ўзяць ваенную кінахроніку пад жорсткі кантроль. Так з'явіўся загад № 316 пад грыфам «сакрэтна», які абвяшчаў: «Фільмы, створаныя на аснове кінадакументаў, з'яўляюцца магутным сродкам палітычнага выхавання байцоў Чырвонай Арміі і многіх пакаленняў савецкіх людзей». Кінахроніка разглядалася таксама ў якасці фактару, здольнага адыграць важную ролю ў міжнародных справах.

Ужо ўзімку 1942 года, пасля разгрому нямецкіх войскаў пад Масквой, беларускае кіраўніцтва і асабіста Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Панцеляймон Панамарэнка прыкладаюць актыўныя намаганні па аднаўленні кіначасопіса «Советская Белоруссия»...

Пры стварэнні стартавага ваеннага выпуску «Советская Белоруссия» (№ 1, 1942) была зроблена толькі адна, але істотная, папраўка, якую кіраўніцтва Цэнтральнай студыі кінахронікі (з ведама вышэйшага кіраўніцтва) унесла перад пачаткам здымак. У якасці галоўнага героя сюжэта пра беларускіх скульптараў спачатку планаваўся Аляксандр Грубэ, а Заір Азгур выступаў у якасці запаснай кандыдатуры. За паўгода сітуацыя стала іншай, і яны памяняліся месцамі.

Паўтарахвілінны сюжэт, зняты ў майстэрні Заіра Азгура, цалкам адпавядаў мабілізацыйнай парадыгме кінахронікі першай фазы вайны. Толькі моцная дзяржава, упэўненая ў сваёй будучай перамозе, магла дазволіць сабе ў крытычную хвіліну такую «раскошу», як стварэнне манументальных партрэтаў сучаснікаў. Ужо на пачатку вайны Заірам Азгурам была створана галерэя партрэтаў герояў Вялікай Айчыннай вайны: генерал-лейтэнанта Канстанціна Ракасоўскага, Героя Савецкага Саюза капітана Мікалая Гастэлы, генерал-маёра Льва Даватара, партызана Міхаіла Сільніцкага, снайпера Феадосія Смалячкова, генерала Аляксандра Радзімцава і маёра Аляксандра Малодчага. Некалькі пазней — лётчыка, малодшага лейтэнанта Віктара Талаліхіна, арганізатара партызанскага руху ў Віцебскай вобласці Міная Шмырова...

Што датычыць другога сюжэта — «Баявая зброя», — прысвечанага выступленню Ларысы Александроўскай перад воінамі-танкістамі на Калінінскім фронце, то тут усё было рэалізавана ў адпаведнасці з першапачатковай задумай — менавіта гэты ўчастак фронту знаходзіўся бліжэй за іншыя да паўночна-заходняй мяжы БССР. Акрамя таго, са снежня 1941 па май 1942 года пасаду члена Ваеннага Савета 3-й ударнай арміі Калінінскага фронту займаў сам Панцеляймон Панамарэнка!

Ларыса Александроўская прыязджае на Калінінскі фронт і выступае перад байцамі, сярод якіх нямала беларусаў. Упэўнена і горда — нібыта на сцэне акадэмічнага тэатра — яна выконвае песню «Бывайце здаровы!» на танку Т-34. Гэты музычны твор паспеў стаць надзвычай папулярным у даваенны час, удзячную аўдыторыю ён збіраў і ў гады вайны. Для танкістаў, перад якімі выступае спявачка, песня «Бывайце здаровы!» — сімвал даваеннага жыцця, спакойнага і шчаслівага.

Ларыса Александроўская — зорка оперы. Напярэдадні вайны, у 1940-м, яна была ўдастоена ордэна Леніна і высокага звання народнай артысткі СССР. З канца 1930-х гадоў яе імя ўспрымалася амаль як міф, легенда.

Асаблівы шарм і гендарны падтэкст усяму сюжэту надае выкананне музычнага твора менавіта жанчынай — прыгожай, недасягальнай і тым не менш жаданай. Па арганізацыі прасторы і экраннага часу (працягласць сюжэта складае 3 хвіліны 40 секунд) гэты «рэпартаж», несумненна, з'яўляецца прадвеснікам экранных канцэртаў больш позняга часу. У сольны кінаканцэртны нумар Ларысы Александроўскай рэжысёры і мантажоры восем разоў уразаюць так званыя «перабіўкі» — агульныя, сярэднія і буйныя планы танкістаў у шлемах. І сярод слухачоў няма ніводнага абыякавага.

Не толькі спецыяліст, але і глядач заўважыць у гэтым сюжэце шэраг наіўных дэталяў: танкі расстаўленыя на адной лініі, ствалы іх вежаў паднятыя пад адным вуглом, нібы гэта выяўлялася з дапамогай транспарцира.

Тым не менш эмацыянальнасць і непадробны драматызм сітуацыі нашмат пераўзыходзяць асобныя недакладнасці. Да даху легкавой машыны, на якой прыязджае артыстка, для камуфляжу і забеспячэння бяспекі прымацаваны галінкі дрэў. Значыць, дарога ішла ўздоўж лініі фронту, якую маглі бамбіць нямецкія самалёты. Такія дэталі найлепшым чынам перадаюць трывожную, небяспечную атмасферу часу.

Пры аналізе структуры першага аднаўленага ваеннага кіначасопіса «Советская Белоруссия» ўзнікае пытанне: чаму матэрыял пра творчасць скульптара Азгура, зняты ў глыбокім тыле, у Маскве, адкрываў кіначасопіс, а сюжэт пра выступленне Александроўскай перад танкістамі, якія ішлі ў бой, быў пастаўлены другім? Але ж гаворка ідзе пра сюжэт, створаны на падступах да перадавой, які мае лёсавызначальнае значэнне.

Тлумачэнняў гэтаму феномену можна прапанаваць як мінімум два.

Прафесійным кінематаграфістам добра вядома стылеўтваральная функцыя пралогу твора, якая, нібы камертон, дае тонкую настройку на асаблівасці кінамовы і стылістыкі кінатэксту, дапамагае гледачу дэкадзіраваць і відавочныя, і схаваныя сэнсы. Але ў выпадку з ліпеньскім нумарам «Советской Белоруссии» справа, відавочна, гэтым не абмяжоўваецца.

Ідэалагічная прыярытэтнасць першага сюжэта, у адпаведнасці з прынятай на той момант шкалой каштоўнасцей, была прадыктавана надзвычай дакладным выбарам героя скульптурных кампазіцый Заіра Азгура. Вобразы Герояў Савецкага Саюза былі ідэальным прапагандысцкім матэрыялам у межах мабілізацыйнай парадыгмы пачатковага этапу вайны.

...Азгур, як ніхто іншы, без празмернай індывідуалізацыі вобразаў партрэтуемых герояў і ўскладнення тэмы воінскага подзвігу ствараў вельмі запатрабаваную для таго этапу вайны міфалагему, дзейсную не толькі ў 1942 годзе, але яшчэ больш арыентаваную ў будучыню.

На гэтым фоне вельмі харызматычны і натхняльны вобраз бясстрашнай жанчыны-воіна, пасіянарнай беларускай амазонкі, створаны яркім талентам Ларысы Александроўскай, нават з улікам бязлітаснасці Ржэўскай бітвы, быў накіраваны на рашэнне адносна лакальнай задачы ў маштабах фронту, але не ўсёй краіны.

Аднаўленне рэгулярных выпускаў беларускай кінаперыёдыкі супала па часе з падпісаннем загада Наркама абароны СССР № 227 ад 27 ліпеня 1942 г., вядомага яшчэ як загад Сталіна «Ні кроку назад».

Да сярэдзіны лета 1942 намаганнямі беларускага кіраўніцтва з прыцягненнем дзеячаў беларускай культуры было завершана стварэнне прапагандысцкага медыйнага кластара «Советская Белоруссия», які ўключае аднайменныя кіначасопіс, газету і радыёстанцыю.

# Герой бязлітаснага жанру

**Шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя здзівілі і ўразілі сапраўды незвычайным, а галоўнае, нечаканым цяплом хрушчоўскай адлігі. Узрушыў чалавецтва не толькі першы палёт чалавека ў космас, але і сапраўдны духоўны ўздым на прасторы вялікай дзяржавы, асуджэнне культу асобы, незвыкла бурапенныя свежых маладых галасоў у паэзіі, выхад яе да шырокіх мас у залы і на стадыёны. Мае аднагодкі таксама належалі да ліку тых, каго ўскалыхнула і ўзняла на грэбень свежая хваля абуджальнага цяпла.**

Казімір КАМЕЙША

У 1962 годзе мы былі студэнтамі БДУ, яшчэ толькі знаёміліся са звычкамі вялікага горада, часта бязмэтна блукалі па яго малаўладкаваных вуліцах і вулачках, і вось мой аднакурснік Рыгор Семашкевіч угаворвае нас з сябрамі наведацца ў тэатр:

— Пойдзем пагладзім «Папараць-кветку», пазнаёмімся з маім земляком Іванам Козелам.

Сказана гэта было так, нібыта Рыгор кліча нас да знаёмства з нейкім надта блізкім чалавекам. Яны з І. Козелам, і праўда, былі землякамі. І мы пагадзіліся, а вечарам пакіраваліся ў тэатр юнага гледача. Незадоўга да гэтага ў часопісе «Маладосць», у якім мы паспелі ўжо выступіць з вершамі, была надрукавана п'еса І. Козела «На хвалях Серабранкі» (першапачатковая назва «Канчане — суседзі мае»). Яна ўжо была ўключана ў рэпертуар тэатра. Але мы ішлі глядзець «Папараць-кветку».

Мала што цяміў я на той час у драматургіі, але спектакль уразіў. На сцэне адбывалася тое, пра што я шмат чуў ад сваіх вяскоўцаў. Дзея п'есы разгортвалася амаль у тых самых мясцінах, дзе жыў і я. Твор нават перагукваўся з купалаўскай «Паўлінкай». Але тут быў свой каларыт, свае жывое напаўненне і ідэя. Аўтар падводзіў гледача да той самай гістарычнай даты — 17 верасня 1939 года, да ўз'яднання Беларусі ў адзінай дзяржаве.

З тэатра мы вярталіся ў добрым настроі. Спектакль усім спадабаўся. Спадабалася ігра маладых акцёраў. Асабліва вылучаўся ў агульным акцёрскім хоры малады Павел Дубашынскі, які выконваў ролю Лявона. Толькі потым я даведаўся, што драматурга і акцёра звязвала добрае сяброўства.

Неўзабаве я ўжо ведаў і біяграфію Івана Васільевіча. Нарадзіўся ён 21 мая 1928 года ў вёсцы Канчаны на Маладзечаншчыне. Пасля заканчэння ў 1949 годзе сярэдняй школы паступіў у Мінскі медыцынскі інстытут, але неўзабаве пакінуў яго. Працаваў настаўнікам, спачатку ў Віткаўскай пачатковай, потым у Ермакоўскай сямігадовай і Красненскай сярэдняй школах. Завочна скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філфака БДУ. Была яшчэ праца ў Інстытуце педагогікі Міністэрства асветы БССР, рэдактарская пасада на студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. У 1969 годзе пісьменнік скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літінстытуце.

Матэрыял для п'ес Іван Козел назапашваў, працуючы настаўнікам у сельскіх школах. Звароту да драматургіі спрыяла добрае веданне фальклору ды сялянскага жыцця, у віры якога ён пастаянна знаходзіўся. Як не згадаць тут словы другога вядомага беларускага драматурга Кастуся Губарэвіча: «...Драматургія — самы жорсткі і бязлітасны жанр. Не маючы што і не ведаючы як сказаць са сцэны, — лепш да гэтага жанру і не падыходзіць».

У Івана Козела было што сказаць, ведаў ён і як гэта зрабіць. Яго заўважылі адразу, калі ў 1957 годзе газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала ўрывак з п'есы «Папараць-кветка». У аснове твора — легенда пра чароўную казачную кветку папараці. Шукаючы яе, народ спрадвеку шукаў і лепшай долі. Зусім не стылізуючы пад легенду багаты жыццёвы матэрыял, дадаўшы яму свежай вобразнасці ды добрай фальклорнай аздобы, аўтар стварыў такі перакананы і захапляльны, падкрэслена нацыянальны твор, што на яго адразу звярнулі ўвагу дасведчаныя тэатралы. Адной з першых была арганізатар і галоўны рэжысёр Беларускага тэатра юнага гледача Любоў Іванаўна Мазалеўская. Тады малады тэатр шукаў адметны нацыянальны драматургічны матэрыял. І вось знаходка. За яе ўхапіліся ў тэатры. Потым п'есы маладога аўтара будуць з поспехам ісці і на іншых сцэнах, а для тэатра юнага гледача ён станецца адразу «сваім драматургам». Яго п'есамі будзе адкрывацца кожны новы тэатральны сезон і гастролі таксама.

Мне і сёння здаецца, што кожны тэатр павінен мець не толькі свайго галоўнага рэжысёра, але і свайго галоўнага драматурга, які стварае імя і сабе, і творчаму калектыву. Не памылілася ў гэтым сэнсе і дасведчаная, дальнабачная Любоў Мазалеўская, калі спыніла сваю ўвагу на маладым творцы з былой заходнебеларускай глыбінкі.

Дзякуючы таленавітай рэжысуры глядачы разумелі і прымалі глыбока да сэрца творчыя задумы новага драматурга. Гэта радавала аўтара — яго пошук не застаецца незаўважаным, ён запатрабаваны.

У яго быў імгненны, заўважаны ўсімі творчы ўзлёт. Але голас творцы нечакана і захлынуўся на гэтым узлёце. Нейкае амаль гагарынскае наканаванне лёсу. Зусім недарэчны выпадак пазбавіў жыцця таленавітага драматурга ў самым росквіце яго творчых магчымасцей. Здарылася гэта 30 студзеня 1970 года.

Сёння мы не будзем казаць пра дальнабачнасць аўтара. Не ўсё з напісанага Іванам Козелам вытрымала выпрабаванне часам. На многія даўно адшумелыя падзеі цяпер мы глядзім зусім іншымі вачыма. Шмат што здаецца сёння наіўным, нават смешным. Думаецца, калі б жыў аўтар, ён бы не пабаяўся ўжо з новай ацэнкай звярнуцца да ўласных твораў, штосьці адрэдагаваць, штосьці дадаўшы, і яны б атрымалі новае сцэнічнае шчаслівае жыццё.

У яго было безліч задум. Многае засталося недапісаным, абарваным на паўслове. У 2005 годзе дзякуючы намаганням землякоў пісьменніка выйшла пасмяротная кніга яго п'ес «Над хвалямі Серабранкі». Апроч двух ужо вядомых твораў у яе ўвайшла і драматычная казка «Краіна фарбаў». Працытуем тут укладальніка кнігі Міхася Казлоўскага: «П'еса «Краіна фарбаў» з нашага пункту гледжання самы лепшы драматургічны твор з літаратурнай спадчыны Івана Козела, якую яшчэ чакае (хочацца ў гэта верыць) шчаслівае тэатральнае жыццё». Матэрыял у гэтай яшчэ невядомай, не апрабаванай на сцэне рэчы і сапраўды даволі цікавы. У спалучэнні ўмоўнага і казачнага з жыццёвымі рэаліямі бачыцца добрая рэалістычная аснова для сцэнічнага ўвасаблення твора. Слова за тэатрамі.

Літаратурная спадчына Івана Козела — гэта яшчэ і вершы, апавяданні, артыкулы. Ён быў творцам вялікіх магчымасцей. Самабытны драматург заўсёды трымаўся родных вытокаў, цвёрда абапіраючыся на той грунт, назва якому — жыццё. Сведчанне гэтаму — яго галоўны і вядомы твор «Папараць-кветка».

# «Мы створым народны рух!»

Летась «ЛіМ» пісаў пра трохмоўны зборнік вершаў Надзеі Верас «Крылы надзеі», выдадзены ў Таганрогу пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Дона. Аўтар ідэі кнігі, паэт, член Саюза пісьменнікаў Расіі Леанід Север не збіраўся спыняцца на дасягнутым і заклікаў чытачоў нашай газеты далучацца да сумеснага беларуска-расійска-ўкраінскага праекта.
Што атрымалася? Пра гэта распавядзе ён сам, а таксама беларуская пісьменніца Аксана Ярашонак.

**Л. Север:** Я не сказаў бы, што наша новая праца — двухмоўны зборнік паэзіі «Славянскага болю карункі» — нешта зусім адрознае. Канечне, мы першапачаткова збіраліся рабіць зборнік, цалкам прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне, але жыццё паказала, што трэба пашыраць межы. Акрамя таго, што мы прэзентуем сёння, плануецца яшчэ і выданне, у якім творы беларускіх аўтараў будуць мець два варыянты перакладу на рускую мову. А пасля мы перадаём на Украіну гэтыя вершы і выдаём іх разам з украінскімі перастварэннямі. Дапаможа нам вядомая па першым зборніку пісьменніца і перакладчыца Вольга Сафронава, якая стане рэдактарам чарговага выдання. Наша мэта — трохмоўнае славянскае сяброўства. Гэта справа народная. Вось і Аксана сама да мяне звярнулася — спачатку з уласнымі творамі, а потым вырашыла паспрабаваць сябе ў перакладах.

**А. Ярашонак:** Раней я перакладала толькі свае вершы, з якімі было прасцей, а гэты зборнік для мяне — своеасаблівы перакладчыцкі дэбют і да таго ж мая першая кніжка. Леанід прапанаваў мне перакласці тое, што спадабаецца, а мне спадабалася ўсё! У выніку атрымалася перастварыць па-беларуску вершы дваццаці пяці аўтараў — ад кожнага па тры. Магу адзначыць, што, незалежна ад нацыянальнасці, нас хвалюе адно і тое ж. Адрозненне палягае хутчэй у асобе творцы. Многія імёны сталі для мяне сапраўдным адкрыццём. Часам




адчувала і ўзроставую мяжу паміж сабой і сваімі аўтарамі. Некаторыя творы перакладаліся цяжка...

**Л. Север:** Заўважце, як пашыраецца наша кола: тры чалавекі спачатку, цяпер выдалі дзевятнаццаць аўтараў, у працы — амаль паўсотні! Чаму б нам пры дапамозе «ЛіМа», Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Расіі не пайсці далей? Для гэтага ж так мала трэба: каб літаратурныя аб'яднанні абласных цэнтраў Беларусі абмяняліся матэрыяламі з літаб'яднаннямі Таганрога, Краснадара, Ростова... Сістэматызаваць, скласці тое, што атрымаецца, — і будзе вельмі шмат станоўчых момантаў. Па-першае, распаўсюджваецца ў Расіі беларуская паэзія і сучасная руская — у Беларусі. Па-другое, практыка перакладу — гэта адначасова і творчая школа для паэтаў. Атрымаецца такі аб'яднаўчы літаратурны рух, які дазволіць пачуць і зразумець, што хвалюе беларусаў, украінцаў і рускіх. Нават выдаткаў ніякіх не трэба! Варта проста гэтым займацца. А грошы на новую кніжку нам выдзелілі наша ўпраўленне культуры і Данское дарожнае радыё — мы ім за гэта вельмі ўдзячныя. Акрамя таго, вельмі прыемна, што ацэнку нашай працы далі Святлана Макарава, член Вышэйшай творчай Рады Саюзнай дзяржавы, сакратар праўлення СПР, і галоўны рэдактар «ЛіМа» Таццяна Сівец.

Да слова, людзі, якія працуюць з намі — наша каманда, — робяць гэта абсалютна бескарысна і з задавальненнем. Карацей, дайце нам матэрыял, а мы створым народны рух!

**Падрыхтавала**
**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

## *Унікальны праект*

# Вялікі — ад А да Я

Аб'ём — каля 800 старонак, больш як 500 энцыклапедычных артыкулаў, вялікі фармат, больш як тысяча ілюстрацый, аўтары — вядучыя навукоўцы краіны ў галіне даследавання опернага і балетнага мастацтва. Менавіта такой будзе «Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі» — сапраўды ўнікальнае выданне, што рыхтуецца да выхаду ў «Беларускай Энцыклапедыі імя П. Броўкі». Кніга, падрыхтоўка якой прымеркавана да 80-гадовага юбілею Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, стане першай персанальнай энцыклапедыяй тэатра ў нашай краіне.




— Адкрые выданне нарыс гісторыі развіцця Вялікага тэатра ад пачатку стварэння першых оперных калектываў і да нашых дзён, — распавядае галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч. — У ім аўтары звяртаюць увагу на адметнасці развіцця нашага опернага і балетнага мастацтва цягам кожнага дзесяцігоддзя яго гісторыі. Затым — звычайная энцыклапедыя. Так бы мовіць, увесь тэатр ад А да Я. Тут і вядучыя артысты оперы і балета, хормайстры, дырыжоры, кампазітары, балетмайстры. Пра кожнага заслужанага, народнага артыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі — персанальны артыкул. Мы імкнёмся, каб гэтае выданне ўсё ж не было класічнай энцыклапедыяй. Тут досыць шмат ілюстрацыйнага матэрыялу, нават цэлыя развароты з фотаздымкамі: оперныя і балетныя пастаноўкі Вялікага тэатра вельмі відовішчныя. Шырока прадстаўляем гісторыю тэатра ў здымках, у гэтым кірунку працуем як з сучасным часопісам «Партэр», што выдаецца пры тэатры, так і з архівам.

Над падрыхтоўкай энцыклапедыі працуе рэдакцыя літаратуры і мастацтва «БелЭн імя П. Броўкі». Загадчык рэдакцыі Таццяна Рослік зазначае:

— Гэтае выданне насамрэч унікальнае, бо такой кнігі ў нашай краіне яшчэ не было. Нiводзін тэатр не мае сваёй персанальнай энцыклапедыі. Ужо цяпер праведзена значнае даследаванне, у першую чаргу супрацоўнікамі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Уступны артыкул напісалі дактары мастацтвазнаўства Надзея Юўчанка, Вера Пракапцова і Юлія Чурко. Замаўляючы, рэдагуючы энцыклапедычныя артыкулы, мы кансультуемся з галоўным мастацкім кіраўніком балета Юрыем Траянам, галоўным хормайстрам Нінай Ламановіч, натуральна, з генеральным дырэктарам Вялікага Уладзімірам Грыдзюшкам. Што да гісторыі пастановак тэатра, то ў гэтым выданні яна пачынаецца з першай пастаноўкі «Кармэн» 1933 года, дзе ў галоўнай ролі была легендарная Ларыса Александроўская, і заканчваецца апошняй прэм'ерай «Шчаўкунок», што адбылася ў сакавіку. Звяртаем увагу літаральна на кожную пастаноўку. Да прыкладу, калі «Яўгеній Анегін» ставіўся ў Вялікім сем разоў, то ў энцыклапедыі можна будзе знайсці інфармацыю пра ўсе сем пастановак. Гэта звесткі пра аўтараў і ўдзельнікаў — ад галоўнага рэжысёра-пастаноўшчыка да выканаўцаў вядучых партый, кароткі сюжэт і 2-3 абзацы крытычнага матэрыялу. Таму можна сцвярджаць, што энцыклапедыя будзе выконваць і рэкламную функцыю: дапаможа наведвальніку выбраць оперу ці балет з актуальнага рэпертуару тэатра.

Як адзначаюць выдаўцы, кола патэнцыяльных чытачоў досыць шырокае: гэта і нашы суайчыннікі, і госці краіны, у тым ліку на высокім дзяржаўным узроўні. Яшчэ больш запатрабаваным зробіць энцыклапедыю яе двухмоўнасць: асноўны тэкст напісаны па-руску, але подпісы да здымкаў перакладзены на англійскую мову. У выданне таксама ўвойдзе кароткае рэзюмэ па-англійску.

— Натуральна, энцыклапедыя Вялікага тэатра мае навуковы характар, — разважае Таццяна Фёдараўна. — Але аўтары стараюцца, каб артыкулы былі напісаныя даступнай моваю, каб кніга стала цікавай не толькі спецыялістам у вузкай галіне, але і шырокаму колу аматараў беларускай культуры. Улічваючы тое, што нашы опера і балет знаходзяцца далёка не на апошнім месцы ў свеце па сваім развіцці, гэтая кніга — добры шанс згадаць таго, хто стаяў ля іх вытокаў.

Але не толькі змест робіць «Вялікую энцыклапедыю Вялікага тэатра Беларусі» адметнай. Незвычайным будзе і яе афармленне. Над дызайнам выдання працуюць маладыя мастакі, якія сёлета заканчваюць Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. У якасці ўмоў былі прапанаваны наступныя крытэрыі: каб кніга была фундаментальная, відовішчная, прыгожая, эксклюзіўная.

У выдавецтве прызналіся, што калісьці мелі задумку распрацаваць энцыклапедыі пра вядучыя тэатральна-драматычныя калектывы краіны. Можна сцвярджаць, што здзяйсненне гэтай выдавецкай мары пачалося.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## *Час чытаць*

# Засцерагчы ад памылак


Фота з інтэрнэт-сайта doktor.by

Партрэт, на якім Аксана Аракчэева за дзве кароткія сустрэчы ўхапіла сутнасць яго прафесіі, кіраўнік мамалагічнага цэнтра, член-карэспандэнт Акадэміі медыцынскіх навук Беларусі прафесар Леанід Путырскі хоча павесіць так, каб яго бачылі пацыенткі.
З аднаго боку, ты той, хто ставіць страшны дыягназ, з іншага — той, хто зробіць усё для выратавання.
І светлая ўсмешка доктара павінна дарыць надзею.

**— Леанід Аляксеевіч, на вашым рахунку шмат зборнікаў лірычных вершаў. А ці помніце свае першыя кнігі?**

— У характарыстыцы настаўніца пачатковай школы пазначыла: «Калі прыйшоў у першы клас, чытаць не ўмеў, але хутка пасябраваў з кніжкай. Падчас перапынкаў часта можна заўважыць яго з чытанкай». Гэта чытанка — зборнік «Залаты ключык». Помню, вельмі любіў тады і кнігі А. Волкава «Чараўнік Ізумруднага горада», «Урфін Джус і яго драўляныя салдаты». Да канца першага навучальнага года абышоў усіх, хто чытаць умеў. Было настолькі цікава, што вучыўся на адны пяцёркі.

Падлеткам захапляўся кнігамі пра каханне. Самай любімай была «Тыя, што спяваюць у цярноўніку» Колін Макалоў. Трагічная гісторыя кахання каталіцкага святара і маладой дзяўчыны ўразіла. Параіў бы ўсім прачытаць яе і берагчы сваё каханне.

**— Якой літаратуры прысвячаеце вольны час?**

— Апошнім часам чытаю менш — пішу ўласныя творы. Свае кнігі, дарэчы, не прадаю, толькі дару. Не так даўно паспрабаваў сябе ў прозе. Разам з сынам напісалі «Удар маланкі» — гісторыі, у аснове якіх рэальныя сюжэты. Адрасаваны яны жанчынам, і нашай мэтай было, каб яны вучыліся на чужых памылках, а не паўтаралі іх. Нядаўна атрымаў у падарунак ад Наталлі Батраковай яе новы раман. Спадзяюся, змагу прачытаць летнімі вечарамі на лецішчы.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

# Над Нёманам. Кантрасты

Статус «Лялек над Нёманам» арганізатары — Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт і Гродзенскі абласны тэатр лялек — вызначылі сціпла: свята тэатральнага лялечнага мастацтва, прымеркаванае да адкрыцця тэатральнага будынка пасля рэстаўрацыі. З 10 па 13 мая адбылося дванаццаць спектакляў. Вартасці пераважнае большасці даюць падставу распавесці пра адметны фестываль міжнароднай значнасці.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**



*Сцэна са спектакля "Лясная песня".*

...Алег Жугжда, галоўны рэжысёр гарадзенскіх лялек, запрасіў на свята сяброў і толькі сяброў, бо ўмовай сустрэчы быў бяскоштавы (безганарарны) паказ кожнага спектакля. Пра гэта нават абвясціў уголас (у прэсе) — са скрухай, але шчыра. Сябры, паплечнікі, хаўруснікі чароўнага чалавека Жугжды памеркавалі, што сустрэцца ў Гродне — важна. І ў час, вольны ад паказаў, сумленна грамадавалі, не шкадуючы імпэту на крытыкаў, журналістаў, гледачоў. Гэта я пра што? Ды пра ролю Алега Алегавіча Жугжды ў мастацтве.

Рэжысёра Алега Жугжду справядліва называюць нашым нацыянальным набыткам. На фэсце, дзе панавалі прыязнасць ды паважлівасць, ён вызначыўся моцным кіраўніком, ачоліўшы суполку таленавітых творчых людзей — артыстаў, адміністратараў, цэхавых работнікаў. Кожны спектакль дасціпна прадстаўляла трыа «дзевак фестывальна-гарадзенскіх» (саманазва!) у складзе дзвюх актрыс і музычнага кіраўніка тэатра; яны вялі рэй на афіцыйных мерапрыемствах. Ці не ўвесь тэатр спяваў-танчыў-завіхаўся каля сяброў-наведнікаў-гледачоў, пераймаючы адзін аднаго ў артыстызме ды гасціннасці — незалежна ад службовых абавязкаў. Было хораша. Было што глядзець...

...Калі пад каласнікамі тэатра Тызенгаўза ўзыходзіла «Поўня Сальеры» (Брэсцкі тэатр лялек). Літаратурная падстава спектакля належыць Аляксандру Пушкіну і вядомая грамадзе як маленькая трагедыя «Моцарт і Сальеры». Перадусім рэжысёру Руслану Кудашову (Расія) належыць яе адметнае сцэнічнае вырашэнне праз лялькі: класічная гісторыя дзеецца ў іншасвеце, дзе Сальеры мае асабістае пекла і асуджаны перажываць сваё злачынства безліч разоў, пакуль трывае поўня ды пільнуе пачварны Дэман. Лунае па сусвеце ўвасобленая Ізора (альбо Муза), праз якую Сальеры атрымаў атруту (чаго вымагаў, тое і спраўдзілася); лунае летуценны Моцарт, праз якога злачынца марыць (і яшчэ можа!) вызваліцца ды спачыць. Спектакль ззяе халодным святлом поўні, але час-почас Моцарт і Муза апынаюцца ў цёплым асвятленні зямных згадак. Лялечныя ручкі перадаюць садавіну, перасоўваюць рэчы, даюць поўхі, Дэман распраствае крылы і мяняецца з твару... Сем артыстаў віртуозна кіруюць чатырма лялькамі, дажджом, віхурамі з пяску, ліставеем, палётам поўні Сальеры і адлётам Моцарта з Музай на велічнай рыбіне; Зміцер Нуянзін і Раман Пархач падтрымліваюць пушкінскі дыялог за Сальеры і Моцарта. Каштоўнасці спектаклю надало і тое, што для яго ўвасаблення рэжысёр скарыстаў выключна тэатральныя сродкі, што музыка Моцарта і Сальеры падабраная і знітаваная Уладзімірам Бычкоўскім па-майстэрску, а сцэнаграфія і лялькі Андрэя Запарожскага і Аляўціны Торык — свайго роду мастакоўскія шэдэўры.

...Лепшы рэпертуар драматычнага тэатра паступова ўвасабляецца лялечнікамі: знакамітая віцебская «Лялька» патрапіла ўвасобіць «Нататкі вар'ята» М. Гогаля: праз аб'екты, прадметы, лялькі, жывы план (уласна акцёрскае выкананне) і кавалкі класічнага тэксту. Звар'яцелы Папрышчын пластычна качаўся па падлозе, еў паперу і ўпадаў за дачкою начальніка... Падзеі спектакля грувасціліся адна на адну, выканаўцы, здавалася, адзін аднаму заміналі... Калі імпэт аціх, узнікла пытанне: якую гісторыю ўзяўся распавядаць тэатр? Што хацеў давесці праз яе? Вельмі моцным падаўся рэжысёрскі замах, але яго пахавала літаратура, аніяк не ўпарадкаваная для сцэны.

...Драматургію літоўскага спектакля «Залатая яблынька, вінны калодзеж» (у тым сэнсе, што ў калодзежы віно) таксама стварыў рэжысёр — Рымас Дрэжыс, прапанаваўшы расповед... з канца. Вось ён, канец вядомай казачнай гісторыі, на адмысловай прыстасове кшталту старасвецкіх панарам у катрынках (круціш ручку — паволі паўзе-раскручваецца гісторыя ў малюнках)! Трэба адшукаць пачатак.

...Пад руку актрысе трапляліся ажно дзве такія панарамкі (яны задавалі нетаропкі казачны тэмп, настройвалі на паразуменне з залаю). Дзякуючы ім гледачы вывучылі, як будзе па-літоўску «я цябе кахаю» (і паўтарылі, кожны па-свойму), міжволі адзначыўшы, якую светлую рацыю мае рэжысёр, змушаючы прамовіць чароўныя словы колькі разоў! І толькі спагадзя «аджывала» галоўная лялечная шырма-экран, дзе чаргаваліся сцэны лялечныя і анімацыйныя (камп'ютарная графіка Альгімантаса Дрэжыса). Такое далікатнае і вельмі тэатральнае спалучэнне старасвеччыны з найноўшай тэхналогіяй прапанаваў мастак Марус Йануціс. Напэўна, і сукеначку Апавядальніцы ён прыдумаў — зялёны луг з дамком пры гаёчку ды воблачкі... Сукенка ўтварала дасціпны рухомы заднік, варта было актрысе Эльвіры Пішкінайтэ ўзяць ляльку-забаўку ў рукі і распавесці пра



*Сцэна са спектакля «Поўня Сальеры».*

караля і сіротку, пра злую мачаху і чароўную кароўку. Лялечніцы не бракавала майстэрства абазнанай драматычнай артысткі, а лялькам, стылізаваным пад старасвецкія цацкі, —пяшчотных і артыстычных дотыкаў яе спрытных рук, якое на прафесійнай мове называюць «высокай культурай выканання». Як жа трэба любіць дзяцей, каб іграць для іх такі спектакль! Дарэчы, для найлепшага паразумення з гарадзенскаю залаю літоўскі тэкст пераклалі на рускую мову яшчэ ў Вільні і колькі разоў паўтарылі спектакль па-руску...

...А расійскі рэжысёр Барыс Канстанцінаў добра пашчыраваў у Каўнаскім дзяржаўным тэатры лялек — над п'есай і спектаклем «Па дарозе да сонца». Словы ў ім амаль не гучаць, затое гучыць музыка Дзяніса Шадрына... у выкананні самотнага скрыпача, які туляецца пад вакзальным мостам і чакае свайго шанцу на спатканне. Шанц прыязджае па цыганачных рэйках: вандроўны цырк з дасціпнымі атракцыёнамі і нумарамі. Гэтыя нумары — з утаймавальнікам тыграў, фокуснікам, жанглёрам; урэшце, з касцюміраванай карнавальнай гарылаю — цудоўным чынам выяўляюць стан і пачуцці скрыпача і ўяўляюцца метафарамі ягонага жыцця. Скрыпач не страціў свайго «унутранага дзіцёнка», не забыўся на шчырасць, бескарыслівасць, спагаду і проста абавязаны спаткацца са шчасцем. У фінале «шчасце» выскоквае з «чорнага кабінета» — усе артысты, занятыя ў спектаклі, з'яўляюцца на сцэне і трымаюць «апазнавальныя знакі» сваіх персанажаў — гармонік, філіжанку кавы, сцяжок...

Літоўскія спектаклі без агаворак прызначаны для сямейнага прагляду, вымагаюць эмацыянальнай шчырасці ўспрымання. «Поўня Сальеры» і «Нататкі вар'ята» вызначаюцца інакшай вагавай катэгорыяй — яны вечаровыя, яны для дарослых (хоць творы Пушкіна і Гогаля выкладзены ў праграме пазакласнага чытання). Да іх далучылася і «Лясная песня» Лесі Украінкі Закарпацкага абласнога тэатра лялек «Баўка». Рэжысёр Алег Жугжда добра паабтрос з «Лясной песні» шалупінне шматлікіх фальклорных увасабленняў, запрасіўшы эстэцкую кампанію выканаўцаў... у ратонду, якую ўтварае вялікі вянок з сучча-ламачча і палосы празрыстых белых вэлюмаў, да раяля — з натуральным струнным гукам... Захапляюча! Высока! Відовішча будзе пра злом эпох і ўяўленняў! Уявіце, як абазнаныя эстэты захапляюцца фальклорам і бавяцца спектаклем «пра паганства», як у спектаклі могуць сустрэцца і паразумецца плыні казкі, легенды, класічнай літаратуры і матываў сучасных «жудзікаў»... Здаецца, для гэтай сустрэчы і паразумення рэжысёр нават сцэнічную прастору намагаўся ўшчыльніць, — так што некаторыя персанажы мусілі абжывацца пад раялем... Але раяльная эстэтыка трывала нядоўга. І сканала — праз невыразныя лялькі і псеўдарамантычныя строі артыстаў, праз мяшчанскія талеркі, якія гучна прыбівала да інструмента адна з гераінь, праз жнярства сярпом па раяльных струнах, праз калядныя лямпачкі ў цернях вянка, праз жаночыя лялькі, з якіх адкручваюцца галовы і ўжываюцца як кілішкі для гарэлкі... Гледачоў мусіў уразіць кантраст высокага і нізкага, духу і плоці, але куды больш уразіў кантраст паміж задумаю рэжысёра і яе ўвасабленнем: у фінале нас пакінулі «сам-насам з пустэльным, халодным і абсалютна невядомым светам...»

...Залішне казаць, што свята ўдалося, прызы размеркаваліся, а ў агляд трапіла тое, што ўразіла найбольш. Гран-пры атрымала «Поўня Сальеры», прызы за лепшую рэжысёру і сцэнаграфію — «Залатая яблыня, вінны калодзеж», за лепшую жаночую ролю — актрыса Эльвіра Пішкінайтэ, а лепшы акцёрскі ансамбль прадэманстраваў спектакль «Па дарозе да сонца»...

# Дэль артэ па-беларуску

**Вадзім САЛЕЕЎ**

Вось ужо канец мая. Шмат разнастайных культурных падзей, у тым ліку тэатральных. Але чамусьці не ідзе з памяці той вечар у пачатку красавіка ў былым Палацы піянераў, дзе панавала такая цудоўная атмасфера, якая раз-пораз адсутнічае ў акадэмічных тэатрах нават падчас значных прэм'ер. Звонкія маладыя галасы, бліскучыя вочы гледачоў і гэтыя дзіўныя маскі на сцэне...

Як часта мы чуем пра неабходнасць кантактавання паміж рознымі народамі, пра ўзаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур. У гэтых словах шмат праўды. Але каштоўней проста дзеянне, якое ў рэальнасці пацвярджае гэту ісціну. «Лепш запаліць маленькую свечку...» — сцвярджае кітайская прыказка.

Малады італьянскі рэжысёр Матэа Сп'яці прабыў у беларускай сталіцы два тыдні. За гэты кароткі тэрмін яму ўдалося многае... А наколькі — пераканаліся гледачы, якія прыйшлі ў залу Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Тут студэнты 4 курса факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (педагог курса — народны артыст Беларусі Мікалай Кірычэнка) пад кіраўніцтвам усё таго ж поўнага энтузіязму Матэа Сп'яці паказалі выдатны спектакль пад умоўнай назвай «Панталонэ ў Беларусі».

Вечар камедыі дэль артэ — знакамітага італьянскага народнага тэатра — прайшоў па дакладных канонах тэатра камедыі масак (часам так называюць камедыю дэль артэ). Звычайна ў ёй прысутнічае класічны сюжэт, дзе сутыкаюцца інтарэсы герояў самавітага сацыяльнага статусу і стану з выхадцамі з простага народа (галоўны герой — Арлекіна або Труфальдзіна — так нагадвае нашага Несцерку або рускага Пятрушку!) і, вядома, заўсёды ёсць маладая закаханая пара.

Гэта быў вечар бліскучага тэатральнага дзеяння, дзе гледачоў захапіла маладая энергетыка выканаўцаў. Самае каштоўнае тое, што юныя акцёры, якія вучацца сцэнічнаму рамяству згодна з традыцыямі айчыннай тэатральнай школы, у сістэме эстэтыкі тэатра перажывання, паводле законаў псіхалагічнага тэатра, на гэтым тэатральным вечары прымерылі на сябе іншую сістэму — эстэтыку тэатра прадстаўлення. І атрымалася вельмі нядрэнна (не кажучы ўжо пра карыснасць узбагачэння сцэнічнай палітры юных выканаўцаў). Ва ўсякім разе, акцёрскія работы Ганны Семянякі (Ведзьма), Мікалая Гладкага (Доктар) і асабліва Арцёма Курэня (Арлекіна) заслугоўваюць пазітыўнай крытычнай ацэнкі без усялякіх скідак. Гарачыя апладысменты гледачоў і прысутнасць у зале трох галоўных рэжысёраў сталічных тэатраў — лепшае сведчанне поспеху ўнікальнай культурнай акцыі. Хочацца падзякаваць не толькі галоўным «рэалізатарам» праекта — рэжысёру Матэа Сп'яці і генеральнаму каардынатару Аляксею Стрэльнікаву, — але і ўсім, хто спрыяў яго ажыццяўленню — рэктару Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Пасольству Італьянскай Рэспублікі ў Беларусі, Нацыянальнаму цэнтру мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, народнаму артысту Беларусі Мікалаю Кірычэнку, кафедры раманскага мовазнаўства БДУ, якая забяспечыла якасны пераклад.

Дзякуй ім за свята, за падораную радасць зносін з традыцыямі вялікай еўрапейскай культуры, за яднанне з дапамогай неўміручага мастацтва!

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

### Слова краязнаўцы



**Аляксандр ВАЛКОВІЧ, краязнаўца з Брэста, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар ідэі і рэдактар брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс», распавядае пра пілотны нумар выдання, якое многія чакалі:**

— Гэта амаль 100-старонкавы часопіс культурна-гістарычнай, фальклорна-этнаграфічнай і краязнаўчай тэматыкі на беларускай і рускай мовах, з вялікай колькасцю ілюстрацый. Назва «Астрамечаўскі рукапіс» абрана не выпадкова. Так завецца знакаміты зборнік духоўнай і свецкай музыкі, песень і танцаў XVII стагоддзя, які быў знойдзены ў Ягелонскай бібліятэцы Кракаўскага ўніверсітэта ў Польшчы. Аказалася, што гістарычныя карані рарытэта — на берасцейскай зямлі, у вёсцы Астрамечава, пра што падрабязна напісаў вядомы беларускі навуковец-філолаг, прафесар Адам Мальдзіс. Ён і прапанаваў беларускай грамадскасці вярнуць рукапісу яго «прапіску» і перастаць памылкова называць дакумент «Полацкім сшыткам». Гэтая ідэя была падтрымана…

Заснавальнікамі новага перыядычнага выдання выступілі Брэсцкі раённы выканаўчы камітэт, аддзел культуры райвыканкама і раённы Дом рамёстваў. Аўтары праекта вырашылі вярнуць брэнд «Астрамечаўскі рукапіс» на гістарычную радзіму і на яго аснове працягнуць даследаванне, асвятленне і прапаганду найбагацейшай культурна-гістарычнай спадчыны рэгіёна, перакінуўшы тым самым масток ад мінулага да сучаснасці і будучыні. Паралельна з выпускам штоквартальнага краязнаўчага альманаха плануецца правесці рэгіянальны фальклорны фэст на базе раённага Дома рамёстваў. Збяруцца лепшыя фальклорныя калектывы, якія будуць выконваць і музычныя творы, і танцы са знакамітага «Рукапіса».

Брэсцкі раён багаты на культурна-гістарычныя традыцыі, таму вельмі важна захоўваць іх для новых пакаленняў. Тут плануюць і надалей збіраць і прапагандаваць старадаўнія песні, народныя музыку і танцы, вяртаць з нябыту легенды і паданні, узбагачаць народнай музыкай, песнямі і танцамі рэпертуар творчых калектываў, берагчы створанае самабытнымі майстрамі і перапрацаваць іх вырабы ў культурны здабытак, турыстычны брэнд.

Аўтары альманаха маюць на мэце рэгулярна распавядаць пра творчыя калектывы, дзейнасць устаноў культуры і адукацыі, асвятляць малавядомыя старонкі гісторыі краю, расказваць пра знакамітых творцаў мінулага і, вядома ж, сучаснасць.

### Музейны ўнікат

# Ад сямейнай рэліквіі да пісьма песняра

У філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь «Дом-музей I з'езда РСДРП» працуе інтэрактыўная выстаўка «Аўтограф. Твой след у гісторыі!». Тут можна не толькі пазнаёміцца з цікавай экспазіцыяй, але і ўзяць удзел у выстаўцы: пакінуць асабісты подпіс на адмысловым стэндзе сярод аўтографаў знакамітасцей і атрымаць кансультацыю графолага.

**Раіса МАРЧУК**

Сёння слова «аўтограф» часта выкарыстоўваецца для азначэння дароўнага надпісу на кнізе, дыску, паштоўцы альбо некалькіх памятных слоў у нататніку, якія напісаны знакамітасцю. Гісторыя аўтографа непарыўна звязана з гісторыяй пісьменства. У экспазіцыі прадстаўлены рукапісы вершаў, першыя выпускі газет і самвыдат, кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў, прыклады пячатак асабістых бібліятэк, экслібрысы, а таксама такія ўнікальныя прадметы, як берасцяная грамата, чарнільніцы і пёры.

— Нашы супрацоўнікі пастараліся сабраць і паказаць экспанаты, якія маюць адбітак рукі чалавека, — распавёў малодшы навуковы супрацоўнік Дома-музея I з'езда РСДРП Андрэй Ляневіч. — Адзін з самых старых прадметаў у экспазіцыі — Статут Вялікага Княства Літоўскага (канец XVII стагоддзя), які належаў шляхецкаму роду Корсакаў. На адной са старонак можна ўбачыць надпіс: «Экслібрыс. Аляксандр Корсак». Гэты рарытэт перадаваўся ў сям'і з пакалення ў пакаленне. Тут жа прадстаўлены лісты, рукапісы XVII — пачатку XX стагоддзя з узорамі почыркаў і подпісаў іх аўтараў. Маецца нават рукапіс, у якім распавядаецца пра эканамічныя і прыродныя характарыстыкі Беларусі ў XIX стагоддзі.

Арганізатары выстаўкі вырашылі не абыходзіць увагай Дзень друку, таму на наступным стэндзе — кнігі і перыёдыка. Дэманструюцца першыя выпускі газет «Наша Нива», «Мінский Курьеръ», «Минскій Вечеръ», якія выходзілі на пачатку XX стагоддзя.




Фотаздымак Францішка Багушэвіча з дароўным надпісам дачцэ Канстанцыі Марыі.


28 мая 1943 г.

Ліст Якуба Коласа да Янкі Маўра. Ташкент. 1943 г.

Адзін з самых цікавых экспанатаў — фотаздымак Францішка Багушэвіча, зроблены ў 1889 годзе, з дароўным надпісам любімай дачцэ Канстанцыі Марыі на ўспамін з просьбай быць заўсёды чуллівай і добрай. Сам здымак унікальны, бо фотакартка таго часу — рэдкая і каштоўная рэч, якую захоўвалі як сямейную рэліквію, як твор мастацтва.

— Сярод экспанатаў — тры кнігі, якія, на думку нашых супрацоўнікаў, знаходзіліся калісьці ў бібліятэцы Вацлава Ластоўскага, — працягвае аповед Андрэй Ляневіч. — Выданні цікавыя тым, што на кожным маюцца розныя пячаткі. На першым — так званы сігнет: маленькая пячатка з выявай вершніка ў вугалку кнігі. На другім прадстаўлены класічны экслібрыс: малюнак з ініцыяламі «В. Л.». На трэцім — бібліятэчная пячатка, якая сведчыць, што гэтае выданне менавіта са збору Вацлава Ластоўскага.

Адзін са стэндаў прысвечаны класікам беларускай літаратуры. Цэнтральны экспанат — ліст Якуба Коласа, напісаны ў маі 1943 года і адрасаваны Янку Маўру. Гэты ліст экспануецца ўпершыню і пакуль не знаёмы даследчыкам творчасці беларускага песняра, ён быў знойдзены літаральна некалькі месяцаў таму ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея, калі навуковыя супрацоўнікі разбіралі дакументы, якія датычаць асобы Янкі Маўра. Тэкст ліста крыху павялічылі і выставілі ў вітрыне, каб наведвальнікі маглі з ім пазнаёміцца.

— Дарэчы, Якуб Колас апісвае, як яму жывецца ў Ташкенце, як ён наведваў Маскву і наколькі яго цягне ў Беларусь, — заўважае Андрэй Ляневіч. — Прадстаўлена і кніга паэта з дароўным надпісам заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР, кампазітару Рыгору Пуксту. На выданні пазначаны 1934 год. Тут жа можна ўбачыць машынапісныя і рукапісныя творы з аўтографамі Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Кандрата Крапівы, Максіма Танка. Далей — арыгінал сцэнарыя да кінастужкі «Змова» Кузьмы Кісялёва з подпісам аўтара, створаны ў 1974 годзе. Фільм, прысвечаны перыяду савецка-амерыканскіх адносін, прайшоў цэнзуру, але не быў запушчаны ў вытворчасць.

Асобна ў экспазіцыі прадстаўлены ўнікальныя кнігі па этнаграфіі з дароўнымі надпісамі знакамітых вучоных XIX — XX стагоддзяў: беларускага этнографа і фальклярыста Лідзіі Малчанавай, літоўскага этнографа Вітаўтаса Туменаса. Ёсць таксама кнігі Міхася Чарняўскага, археолага, пісьменніка, і Тамары Чарняўскай, беларускага гісторыка архітэктуры.

# Какоры, сітнік, рагойш…

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**

Ці ведаеце вы, што азначаюць гэтыя словы? Завітайце ў Залескі цэнтр этнакультурнай асветы «Спадчына» Смаргонскага раёна, які месціцца разам з бібліятэкай у будынку сельскага Савета. Яго загадчык Вольга Пачыкоўская не толькі патлумачыць, што азначаюць асобныя словы, але і падрабязна раскажа пра кожны экспанат музейнага пакойчыка.

Тут ведаюць, чым прыцягнуць як вяскоўцаў, так і гасцей. Не толькі ў залескіх ваколіцах, але і па-за межамі Смаргонскага раёна шукалі і знаходзілі аматары даўніны розныя рэчы народнага побыту, што выйшлі з ужытку, але застаюцца сведкамі гісторыі і культуры беларусаў. Для экскурсантаў падрыхтавалі некалькі расповедаў па рознай тэматыцы. Напрыклад, як апрацоўвалі ў даўнейшыя часы лён, якія прылады пры гэтым выкарыстоўвалі.

А яшчэ Вольга Пачыкоўская падрыхтавала цікавы альбом-каталог з рэцэптамі страў, якія гатавалі мясцовыя гаспадыні і на свята, і штодзень. Вось у гэтым альбоме і сустрэліся мне незразумелыя словы. Аказалася, што рагойш — гэта пірог з мясным начыннем. Неяк давялося пакаштаваць тутэйшыя самаробныя сыры — куды смачнейшыя за галандскія!

# Галоўны трэнд — даступнасць

Паняцце «accessible tourism», або «даступны турызм», у многіх краінах даўно ўжо звыклае, бо для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі створаны неблагія ўмовы для таго, каб не адчуваць сябе абдзеленымі. І гэта справядліва: права на адпачынак і вандраванні павінны мець усе без выключэння.

**Бажэна СТРОК**

На жаль, у нашай краіне сітуацыя зусім іншая. Менавіта таму Беларускае грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы» ўпершыню ўзняло пытанне пра даступнасць адпачынку для людзей з інваліднасцю. «Круглы стол» на гэтую вострую і надзённую тэму прайшоў у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханеса Раў.

— Заяўленая тэма для нас новая, ішлі мы да яе паступова, дакладней, жыццё вяло нас у гэтым кірунку, — зазначыла старшыня праўлення «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова. — Гэтай справай, лічу, павінны займацца прафесіяналы, але са свайго боку мы добра ведаем, як трэба арганізоўваць вясковы турызм. Гаспадары такіх сядзіб, як «ВеЛюНа», «Насценька», «Альба Рутэнія», ужо маюць унікальны досвед па прыёме на адпачынак людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Для кагосьці гэта ў навіну, але бясспрэчна адно: аграсядзібы павінны адчыніць свае дзверы для ўсіх гасцей.

Гаспадары аграсядзіб па-рознаму прыходзяць да ўсведамлення таго, што трэба думаць і пра інвалідаў. Адны сутыкнуліся з гэтай праблемай у сям'і, другія жадаюць займацца дабрачыннасцю. Наогул жа арганізацыя адпачынку для людзей з інваліднасцю — даволі папулярны ў свеце сегмент бізнесу, які прыносіць неблагі прыбытак. Але патрабуюцца значныя матэрыяльныя выдаткі і шмат часу для пераабсталявання памяшканняў ці пабудовы новых.

Пра тое, што неабходна прыбраць абмежаванні ў якасці паслуг, гаварыў кіраўнік «Офіса па правах людзей з інваліднасцю» Сяргей Драздоўскі. Дарэчы, ён прывёў такі факт: у 2001 годзе міністэрства замежных спраў Германіі пацікавілася, дзе ў нашай краіне нямецкія турысты з інваліднасцю змогуць спыніцца на адпачынак. Аказалася, няма такіх месцаў. У выніку немцы аднеслі Беларусь у рэйтынгу турыстычнай прывабнасці у самы канец спіса. Згадзіцеся, калі ў групе будзе хоць адзін чалавек з абмежаванымі магчымасцямі, то вандроўнікі выберуць прыстасаваны для яго аб'ект.

Досведам па правядзенні фестываляў для дзяцей з інваліднасцю падзяліўся гаспадар «ВеЛюНы», што пад Мінскам, Валерый Шаблоўскі. Яго аграсядзіба стала для хлопчыкаў і дзяўчынак дзвярыма ў свет, дзе яны адчуваюць сябе часткай вялікага калектыву — з такімі ж, як і ў іншых дзяцей, магчымасцямі. Гэта цалкам дабрачынная акцыя, таму без валанцёраў гаспадарам не абысціся.

Удзельнікі «круглага стала» падрыхтавалі і ў хуткім часе накіруюць у адпаведныя міністэрствы зварот з нагоды пашырэння даступнасці паслуг аграэкатурызму для розных катэгорый людзей. У ім, дарэчы, гаворыцца і пра адсутнасць інфармавання ў гэтай сферы, і пра стварэнне банка дадзеных назапашанага вопыту, і пра неабходнасць унясення дапаўненняў у Закон аб спонсарстве, і пра дадатковае крэдытаванне Белаграпрамбанкам тых, хто прыняў рашэнне пераабсталяваць свае сядзібы пад патрэбы інвалідаў, і пра забеспячэнне людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі спецыяльным транспартам.

# Памяць пра маці


Карункавае пано.

**Абрусы і сурвэткі Вольгі Паўленка, якія можна ўбачыць на выстаўцы ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, — гэта не проста вязанне. Работы народнай мастачкі немагчыма разглядаць толькі ў звыклым утылітарным рэчышчы як простыя каляровыя накрыўкі на стол, бо кожны твор — сур'ёзная мастацкая праца.**

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Наведвальнікі выстаўкі ўпэўніліся, што ў вырабах Вольгі Елісееўны, выкананых у тэхніцы пляцення кручком, прысутнічаюць і цікавая задумка, і выразнасць формы, і багацце рытмікі, і яркасць, і гармонія колеру, і смеласць фантазіі. Свае ідэі, уражанні, асацыяцыі майстар увасабляла ў складаных карунках з дапамогай колеру і фактуры. Аўтар спрабавала перадаць пачуцці і перажыванні ад таго, што давялося ўбачыць, спазнаць. Калі глядзіш на абрусы, разумееш, што гэта спроба распавесці пра самыя радасныя моманты жыцця, пра родныя, найпрыгажэйшыя ў свеце краявіды.

— Найперш гэта работы звычайнай жанчыны, якая нарадзілася ў пачатку мінулага стагоддзя на Віцебшчыне, — зазначае загадчык Музея беларускага народнага мастацтва Вольга Залуцкая. — Яна зведала жахі Вялікай Айчыннай вайны, усё жыццё працавала настаўніцай пачатковых класаў, была дырэктарам невялічкай школы, перажыла смерць дзіцяці, разам з мужам паставіла на ногі двух дзяцей.

Дачка майстрыхі, мінская мастачка Марыя Ісаёнак, у доме якой Вольга Елісееўна правяла апошнія гады жыцця, руплiва збірала і зберагала матчыну творчую спадчыну. Большая частка работ прадстаўлена на выстаўцы «Той абрусочак, што маці вязала...» у Раўбічах. Экспазіцыя твораў народнай культуры прысвечана быццам бы звычайнай з'яве — жаночаму рукадзеллю. Мабыць, каб яшчэ раз падкрэсліць: паглядзіце, якія таленавітыя ў нас людзі!

Марыя Ісаёнак успамінае, што маці вельмі любіла кветкі. Зразумела, у горадзе ёй неставала зямлі, дома, саду. Рукадзелле ж заўсёды было ў яе жыцці, але не заўсёды хапала на любімы занятак часу. Пачаўшы вязаць абрусы, дыванкі, сурвэткі, выбірала для іх вельмі яркія ніткі і стварала ашаламляльныя кампазіцыі. Менавіта прырода — крыніца натхнення аўтара, таму ў кожным прадмеце адлюстравана яе глыбокае разуменне, характэрнае для традыцыйнага народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

— Калі прыглядзецца, нічога незвычайнага тут няма: вельмі простая тэхніка, але прысутны амаль незразумелы прыроджаны мастацкі талент і неверагоднае адчуванне колеру, рытму, кампазіцыі, — тлумачыць Вольга Залуцкая. — Вольга Елісееўна ніколі ж не вучылася маляваць, але стварала вельмі цікавыя па каларыстыцы і колеравым рашэнні работы. Прафесійныя мастакі адзначаюць рытміку і колеравыя спалучэнні, чаму студэнты мастацкіх устаноў і нават прафесійныя мастакі вучацца гадамі.

Адзінае, што можна дадаць да яе работы, — паставіць на абрус прыгожую вазу са сціплым букетам, каб падкрэсліць гэткую прыгажосць.

— Кожны квадрацік у вырабах Вольгі Паўленка звязаны асобна, — распавядае далей загадчык музея. — Якія ж трэба мець уяўленне і фантазію, каб, пачынаючы вязаць, пралічыць і колькасць квадратаў, і колеравыя спалучэнні, і ўвогуле ўявіць, якім будзе выраб! Каб складаліся ў адзіны малюнак усе дэталі. Прынамсі, кожны квадрат цікавы сам па сабе, але агульны малюнак — зусім іншы. На першы погляд яркія вырабы здаюцца крыху аляпаватымі, але нічога не «крычыць», не ціснe і не выпінаецца. Гэта і ёсць найвышэйшы пілатаж майстра.

Як паведамілі ў музеі, у Марыі Ісаёнак вельмі рана праявіўся мастацкі талент. Магчыма, гэта «спадчына» ад маці. У самой Марыі Іванаўны ёсць некалькі работ, прысвечаных самаму дарагому чалавеку, якога, на жаль, няма ўжо ў жывых.


Вытанчаны абрус.

Гэта партрэт Вольгі Паўленка, карціна «Вечар у Чарневічах» (родная вёска майстра ў Чашніцкім раёне). Вечарэе… Вольга Елісееўна сядзіць у хаце ля акна і штосьці вяжа. Трэцяя работа, нацюрморт, мае назву «Букет». На стале, засланым абрусам, які звязала маці, стаіць у просценькай вазе шыкоўны букет палявых кветак.

Многія жанчыны іншы раз не ведаюць, чым заняцца ў вольны час, аддаюць вялікія грошы за арыгінальныя ўпрыгажэнні для дома і сябе. Гэтая выстаўка якраз і дэманструе, як можна хутка, танна, густоўна ў любым узросце стварыць шэдэўр, які цудоўна будзе глядзецца ў інтэр'еры.

Выстаўка ў Раўбічах — гэта аповед-адкрыццё пра жыццё і творчасць яшчэ аднаго непаўторнага народнага майстра і гарманічны працяг пастаяннай экспазіцыі Музея беларускага народнага мастацтва.

# Малююць настрой душы

**Вілейскі цэнтр эстэтычнага выхавання пры аддзеле культуры Вілейскага райвыканкама быў створаны ў 1990 годзе. Асноўная яго мэта — знаёмства з каштоўнасцямі нацыянальнай і сусветнай культуры, авалоданне эстэтычнымі ведамі па розных відах мастацтва, краязнаўства, народных рамёстваў.**

**Міра ІЎКОВІЧ**

Сёння ў Цэнтры плённа працуе паўтара дзясятка студый і аматарскіх аб'яднанняў. Адраджэнне і папулярызацыя нацыянальнай культуры — на гэта скіраваны гісторыка-краязнаўчыя студыі «Спадчына» і «Вілейскія забаўлянкі». Работа народнай студыі цацкі «Пушысцікі» мае на мэце раскрыць творчы патэнцыял дзяцей на аснове адраджэння вілейскіх цацачных традыцый, мясцовых відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а дзейнасць народнай студыі «Чароўны квадрат» — развіццё агульных здольнасцей дзяцей і падлеткаў сродкамі арыгамі.

— Дарэчы, два гады таму студыі «Чароўны квадрат» і «Пушысцікі» ў чарговы раз пацвердзілі званне «народных», — распавяла дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання Таццяна Захарыч. — Наш Цэнтр — пастаянны ўдзельнік духоўна-асветніцкіх праграм, дабрачынных мерапрыемстваў, выставак, канцэртаў. Духоўна-асветніцкія праграмы, сумесныя канцэрты клуба духоўнай культуры «Крыніца чысціні», студыі «Домісолька» былі прадстаўлены на XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, на рэспубліканскай выстаўцы, прысвечанай Нараджэнню Хрыстову, ва ўстановах адукацыі і культуры Вілейскага раёна.

Супрацоўнікі Цэнтра разам са сваімі выхаванцамі бяруць удзел у рэалізацыі праектаў «Незабыўныя імёны Вілейшчыны», «Славутыя землякі», «Любая Вілейшчына мая», «Дні праваслаўнай кнігі»… У межах рэспубліканскай духоўна-асветніцкай праграмы «Сям'я — Адзінства — Айчына» актыўна супрацоўнічаюць з прадстаўнікамі Беларускай Праваслаўнай Царквы, Храмам Прападобнай Марыі Егіпецкай, Выдавецтвам Беларускага Экзархата, літаратурнай газеты «Воскресение». Да міжнароднага Дня абароны дзяцей рыхтуюць выстаўку студыі «Маляванка» ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў межах праекта «Няхай дзяцінства будзе шчаслівым!»

Мастацкія калектывы Цэнтра і іх удзельнікі — лаўрэаты, дыпламанты абласных, рэспубліканскіх і міжнародных мерапрыемстваў, дабрачынных акцый. У 2001 годзе Цэнтр атрымаў грант Мінаблвыканкама на рэалізацыю праекта «Шлях да прыгажосці».

Сёлета ў Вілейскім краязнаўчым музеі прайшла выстаўка «Цвяток Радзімы васілька», на якой былі прадстаўлены работы кіраўніка народнай студыі «Маляванка», майстра роспісу па дрэве Алы Суднiковіч і творы выхаванцаў Вілейскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы, з якой цэнтр супрацоўнічае больш як 15 гадоў.

— Хлопчыкі і дзяўчынкі са школы-інтэрната з вялікім задавальненнем прыходзяць на заняткі, бо тут яны раскрываюцца ў поўную сілу, — распавяла Ала Расціславаўна. — Калі пытаюся ў іх, што яны хочуць адлюстраваць у сваіх работах, звычайна чую: «Мы малюем настрой сваёй душы і тое, што адчуваем».


Ала Суднiковіч «Цвяток Радзімы васілька».


«Кветкі» — работа выхаванкі школы-інтэрната Яны Раўпук.

— І мы ў іх бываем, праводзім сумесныя акцыі, выстаўкі работ, майстар-класы, — зазначыла дырэктар Цэнтра Таццяна Захарыч. — Усім нам у радасць, калі ў дзяцей свецяцца ад задавальнення вочы і з'яўляюцца ўсмешкі на тварах. Творчасць дапамагае ім жыць, перамагаць хваробы і часцей адчуваць сябе шчаслівымі.

# Мазаіка з ручнікоў

**Надыход вясны ў гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе» сустрэлі выстаўкай ручнікоў «Ромб. Крыж. Кола», дзе былі прадстаўлены рэчы з фондаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Веткаўскага музея народнай творчасці імя Ф. Шклярава, Мінскага абласнога краязнаўчага музея і ўласна музея-запаведніка.**

**Алесь СУХАДОЛАЎ**

Экспазіцыя арганізавана не па класічных музейных канонах: ручнікі развешаны па зале ў форме адной суцэльнай інсталяцыі без акцэнтавання ўвагі на канкрэтных творах. Гэты смелы прыём успрымаецца як своеасаблівая мастацкая акцыя, мэта якой — сканцэнтраваць у адным месцы максімум жыццядайнай энергіі народнай культуры. Нягледзячы на нязвыклы фармат, выстаўка не губляе сваёй навукова-пазнавальнай каштоўнасці, а яе экспазіцыя прадстаўлена шасцю блокамі, што дазваляе пазнаёміцца з ручнікамі ўсіх гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў нашай краіны.

Асабліва яркай, экспрэсіўна-чырвонай афарбоўкай вылучаецца блок ручнікоў Падняпроўя. Акрамя таго, што ў гэтым рэгіёне прымяняюцца самыя розныя тэхнікі ткацтва і шыцця, падняпроўскія ручнікі славяцца найбольш распрацаванай знакава-семантычнай мовай арнаменту. У яго рамбічных элементах носьбіт традыцыйнай культуры распазнае «веряб'ёў», выяву поля на розных стадыях сельскагаспадарчай апрацоўкі. Для ручнікоў Заходняга Палесся характэрны сціплы чырвона-паласаты арнамент. Ён не ўтрымлівае геаметрычных фігур-сімвалаў, а сваімі абрысамі нагадвае лесвіцу, што, на думку даследчыкаў, выражае ўласцівую міфалагічным уяўленням палешукоў сувязь паміж зямлёй і нябёсамі, светам жывых і памерлых. Такі від арнаменту — найбольш архаічны, у яго аснове ляжыць засцерагальная функцыя чырвонай паласы.

Найменш кідкі блок ручнікоў Панямоння вылучаецца манахромнай ільняной афарбоўкай. Такое каларыстычнае рашэнне надае вырабам гэтай групы дэкаратыўнасць і функцыянальнасць, а таксама сведчыць пра блізкасць традыцыям суседніх прыбалтыйскіх народаў. Адмысловым арнаментам вылучаюцца ручнікі Паазер'я, на што значны ўплыў аказалі традыцыі рускага этнасу. Побач з геаметрычнымі ўзорамі тут прысутнічаюць раслінныя, жывёльныя і антрапаморфныя вобразы, а вырабам уласціва шматколернасць. Цікавасць уяўляюць ручнікі мясцовых паазерскіх старавераў, у аснове кампазіцыі якіх знаходзіцца міфалагічны вобраз сусветнага дрэва.

# Свабода і эклектызм



Аляксандр Шаппо. Скульптура «Святы Себасцьян».



Інсталяцыя «З ключамі».

**«Ноч музеяў-2013» у Цэнтры сучасных мастацтваў была насычана духам свабоды і эклектызму. У яе рамках адкрыўся арт-праект «Дзверы», прайшло абрадавае музычна-пластычнае дзеянне, усіх жадаючых вучылі танцаваць лінды-хоп, а напрыканцы гучала дзіўная музыка ансамбля «нагУаль».**

**Паліна ПЛАТАВА**

Атмасфера вечарыны нагадвала берлінскі «Тахелес». Поўная імправізацыя і свабода ад умоўнасцей. Плямы фарбы на падлозе, калідоры, напоўненыя інсталяцыямі… Адчуванне, што паглыбляешся ў нязведаныя светы, светы-сімвалы. Статычныя формы мастацтва прадстаўлены ўдзельнікамі праекта «Дзверы». Міфалагічны сюррэалізм Юрыя Анушка змяняецца змрочнай чорна-белай прэзентацыяй Валянціна Борздага, што займае не толькі залы, але і калідоры. Борзды запоўніў прастору Цэнтра дыскамі, стужкамі аўдыё- і відэакасет. Гэткае дзіўнае павуцінне гарманіруе з размаляванымі сценамі. А ў чорнай зале знаходзяцца эратычныя працы Антона Шаппо. Колер пакоя падкрэслівае інтымнасць яго карцін. У блакітнай зале — працы Паўла Шаппо, у іх — подых Індыі, мора і сонца. Белая зала занятая рэлігійна-філасофскімі скульптурамі і карцінамі Аляксандра Шаппо. Колеры пакояў дапамагаюць раскрыць ідэі мастакоў. І адбываецца дзіўны, уласцівы менавіта сучаснаму мастацтву працэс: аб'яднанне работ з выставачнай прасторай, што нявырагодна павялічвае эмацыянальнае ўздзеянне як карцін, так і скульптур.

Аднак толькі статыкі для поўнага мастацкага экстазу недастаткова. Пачаткоўцы, маладзёжныя калектывы, дадалі вечарыне дынамічнасці. Дзяўчынкі на хадулях, акрабатыка, балет, дыска-шоу, неонавае шоу… «Хто на што здатны, — заўважыла куратар вечарыны Ірына Грубіна. — А мы ўсё дазволілі. Таму што «Ноч музеяў»... Ноч наогул дазваляе чалавеку ад усяго адасобіцца і сузіраць».

Яшчэ большы дынамізм прынёс з сабой тэатр. Абрадавае музычна-пластычнае дзеянне «Вочы камянёў» — сінтэз візуальнага і гукавога. Неонавыя эфекты, танец, пантаміма заварожвалі. Гукі варгана, акарыны, гусляў (прычым, выкананне жывое!) гіпнатызавалі. Пра ідэю пастаноўкі расказаў аўтар драматургічнай канцэпцыі, выканаўца галоўнай ролі Андрэй Расолька: «Гэта шлях і вяртанне душы дадому. Але не ў нейкую хату, а ў тую нябесную радзіму, адкуль мы ўсе прыйшлі і куды нам усім трэба будзе вярнуцца калісьці. Гэта шлях душы скрозь эпохі і прасторы, унутраныя і знешнія светы, зорныя светы або светы свядомасці».

Тая ж свабода, тая ж імправізацыя і той жа дынамізм былі і напрыканцы вечарыны. Ансамбль этнічнага сюррэалізму «нагУаль» выступаў на свежым паветры. Шаманскі рок-н-рол адганяў камароў… Усе сядзелі на драўляных пласцінах, якія былі раскладзены на траве. Многія танчылі, моладзь грала на барабанах.

Вечарына прынесла дух свабоды, які рэдка сустрэнеш у музеях. І — дух эклектызму. Творчасць мастакоў-пачаткоўцаў злучылася з ужо прызнанымі мастакамі. Статыка злучылася з дынамічнымі формамі мастацтва. Менавіта такая эксперыментальная атмасфера спараджае пошукі новага.

## З пошты «ЛіМа»

Паважаныя лімаўцы і Паліна Платава!

Вельмі кранаў ваш артыкул «Вера перадаецца». Невялікі і кампактны, але такі пранікнёны, і ўсім удзельнікам прадстаўлена слова (анёлак не згубіўся!), і словы гэтыя шчырыя і зграбныя. Нават атмасферу залы вы, Паліна, змаглі перадаць. Шчыры дзякуй вам за гэта.

Дударава ставіць няпроста. Глядзець таксама. Магчыма, на афішы трэба было б напісаць: «Асцярожна, тут трэба думаць!» Таму што наш мастацкі кожны дзень сустракае іншае. Як трапна сказаў рэжысер Антон Якаўлеў для часопіса «Фома» (цытую на мове арыгінала): «Главная ложь сегодня, особенно в нашем кино и на ТВ, — это когда продюсеры, а они у нас главные ребята, отказывают зрителю в способности думать, считают, что перед ними стадо овец и надо скармливать им пошлятину и банальщину, потому что она лучше продаётся. В театре, слава Богу, до такой степени не дошло».

Не дайшло. Пакуль… Таму што рэжысёру Наталлі Родзінай не абыякава, што адбываецца побач. І акцёрам, і тым, хто прыйшоў у глядзельную залу. Банальна, але развіццё тэатра заўсёды было неад'емнай часткай развіцця грамадства і культуры ў цэлым. А чым сёння запоўнены нашыя так званыя «скрыні»?! Хто павінен біць у набат і як, каб быць пачутым?

**Алена ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Баянны розгалас

**Гэтай вясной у розныя рэгіёны краіны завітала новая творчая акцыя — «Беларускі дзень баяна, акардэона і гармоніка». Ініцыятыва яе правядзення належыць Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў Беларускага саюза музычных дзеячаў.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Што было? Канцэрты з удзелам лепшых айчынных выканаўцаў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, навучэнцаў музычных каледжаў, гімназій, дзіцячых музычных школ мастацтваў, аматараў баяна і гармоніка. А яшчэ — метадычныя семінары, сустрэчы з вядомымі салістамі, педагогамі. Пра тое, як праходзіў «Беларускі дзень баяна, акардэона і гармоніка» ў Гомелі, распавядае старшыня рэгіянальнага аддзялення Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў БСМД, выкладчык Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага Аляксандр Маляроў:

— Імпрэза, якая адбылася ў межах акцыі, прынесла музычнае свята ў горад над Сожам і стала падзеяй для ўсёй вобласці. Адбывалася яна ў Дзіцячай музычнай школе № 1 імя П. Чайкоўскага. Урачысты прэлюдыяй успрымаліся выступленні дырэктара Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Т. Пузырэнка (яна зачытала віншаванне ад Беларускага саюза музычных дзеячаў) і старшыні Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў, заслужанага артыста Беларусі, прафесара Мікалая Сеўрукова. Цяжка пералічыць усіх удзельнікаў самой канцэртнай праграмы, чые выступленні расквецілі атмасферу ў зале. Гэта і ансамбль гарманістаў «Вясёлыя музыкі» пад кіраўніцтвам Максіма Анісаўца (Веткаўскі раённы аддзел культуры). Гэта і навучэнцы дзіцячых музычных школ і школ мастацтваў Гомельшчыны, лаўрэаты рэспубліканскага і міжнародных конкурсаў Юля і Святлана Чарэднік (Калінкавічы), Юра Літошык (Мазыр), Яўген Паўлянок (Рэчыца), многія таленавітыя гомельскія школьнікі, а таксама выхаванцы каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага і Мазырскага музычнага каледжа.

Парадаваў ігрой на гармоніку выкладчык Гомельскай ДМШ № 1 Андрэй Фядзяй. Ярка паказалі сябе нашы выпускнікі, цяперашнія студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Віталь Грышчанка, Яўген Мароз, Аляксандр Зубараў, Андрэй Цалко, віртуозна выступіў лаўрэат міжнародных конкурсаў, саліст абласной філармоніі Дзмітрый Міроненка.

Ад Гомельскага рэгіянальнага аддзялення Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў БСМД былі ўручаны памятныя сувеніры выкладчыкам, чые навучэнцы сталі пераможцамі на міжнародных конкурсах: В. Іванову, А. Гураву, М. Калбасаву, Л. Санюковіч, В. Зазуляк, А. Руцкому, Л. Бурак, А. Склеме, Т. Грамыка, Н. Сялецкай. А заключным акордам канцэрта прагучала выступленне баяннага аркестра пад кіраўніцтвам Т. Баглай — вядомага калектыву нашага каледжа мастацтваў.

Тры гады таму быў упершыню праведзены Усерасійскі дзень баяна, акардэона і гармоніка ў канцэртнай зале Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Акцыя ахапіла рэгіёны Расіі. Беларусы паглядзелі, задумаліся — і стварылі свой праект, розгалас ад якога прайшоў праз усю нашу краіну.

# Без песні — ніяк

Узняць настрой, выклікаць свята, якое ідзе знутры, — гэта і ёсць аснова творчасці народнага мужчынскага вакальнага ансамбля прафесараў і дацэнтаў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта «Чырвоны гваздзік».

Прыемна адзначыць, што за апошняе дзесяцігоддзе ў працы клуба адбыліся значныя перамены: да кіраўніцтва была запрошана Ірына Дорахава, рухавая і кампетэнтная жанчына. Ад гэтага і поспехі ў развіцці мастацкай самадзейнасці. Павялічылася выканаўчае майстэрства вакальнага жанру, колькасць мастацкіх гурткоў, у якіх бяруць удзел студэнты. Прыгажэючы і развіваюцца фестывалі народнай творчасці.

Сярод мноства песень, што выконвае хор, асабліва месца займаюць творы перыяду Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага часу. Гэта тлумачыцца тым, што амаль усе ўдзельнікі ансамбля былі сведкамі альбо ўдзельнікамі тых далёкіх падзей. Іх прафесійнае выкананне адзначана шматлікімі дыпломамі і ўзнагародамі на фестывалях.

Вось і на сёлетнім конкурсе ансамбль дзякуючы высокаму ўзроўню выканання ўсёй праграмы атрымаў падтрымку як у журы, так і ў аўдыторыі. Калектыў прафесійных вакалістаў — М. Балашэвіч, В. Гараст, А. Каральчук, В. Соусь, В. Танковіч, В. Касьянчук, С. Васкоўскі, В. Пятрушкін, С. Агароднікаў — здолеў пацвердзіць (ужо ў дзявяты раз) ганаровае званне «народны».

Удзельнікі народнага ансамбля «Чырвоны гваздзік» упэўнены, што ён іграе «першую скрыпку» ў эстэтычным і патрыятычным выхаванні студэнтаў. Больш за тое, удзел выкладчыкаў у вакальна-харавых спевах спрыяе не толькі актыўнаму правядзенню вольнага часу, але і ўдасканальванню педагагічнага майстэрства, адточванню прамоўніцкага мастацтва, так неабходных сучаснаму кваліфікаванаму лектару.

Песня — абавязковы атрыбут усякай дзейнасці, у тым ліку пазнавальнай і выхаваўчай. Без яе немагчымы вучэбны працэс любой навучальнай установы. Самыя высокія ўзоры паэзіі і музыкі, геніяльныя па сваёй прастаце мелодыі калектыў ансамбля знаходзіць перш за ўсё ў патрыятычных песнях. Гэта тыя творы, якія не пакідаюць абыякавымі людзей рознага ўзросту, імгненна заваёўваючы сэрцы мільёнаў.

**Сяргей ГАЛАЎКО, заслужаны работнік культуры Беларусі, кіраўнік ансамбля «Чырвоны гваздзік» з 1973 года**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2722
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.05.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1986
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686